# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

3-4

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП/б/Б

МЕНСК

1930

# № 3-4 „ПАРТРАБОТНІКА“:







Друкарня БДВ. Заказ № 1248. У ліку 3000 экз. Галоўлітбел № 1264.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 3—4 | Люты 1930 г. | № 3—4

## ЛІСТ ЦК КП(б)Б АКРУГКОМАМ, РАЙКОМАМ І ЯЧЭЙКАМ КП(б)Б І ЎСІМ ЧЛЕНАМ І КАНДЫДАТАМ ПАРТЫІ

### аб перавыбарах партыйных органаў.

ТАВАРЫШЫ!

На працягу бліжэйшых дзён павінна разгарнуцца падрыхтоўчая работа да правядзеньня справаздачнай і перавыбарчай кампаніі кіруючых парторганаў.

За мінулы пэрыяд КП(б)Б разам з усёй партыяй правяла вялізарную работу па выкрыцьцю опортуністычнай сутнасьці правай ідэолёгіі, дала рашучы адпор анты-ленінскім тэорыям правай опозыцыі, з усёй сілай змагалася супроць права-опортуністычных скажэньняў партыйнай лініі на практыцы. За мінулы пэрыяд КП(б)Б, пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту, правяла таксама вялікую працу па выкрыцьцю нацыянал-опортуністычных, нацыянал-дэмократычных і шовіністычных элемэнтаў, дала рашучы адпор вылазкам і ўсякім спробам з боку гэтых элемэнтаў супроцьпаставіць ленінскай лініі ў нацполітыцы сваю опортуністычную дробнабуржуазную лінію, і дабілася значных посьпехаў у правядзеньні нацполітыкі.

Праводзячы энэргічную працу па мобілізацыі шырачэзных мас рабочае клясы, мы дабіліся буйнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Першы год пяцігодкі скончаны з перавыкананьнем плянаў у шэрагу рашучых галін народнае гаспадаркі. Мы ўступілі ў другі год пяцігодкі з зусім рэальнай пэрспэктывай выкананьня яе ў чатыры гады, а па шэрагу галін народнае гаспадаркі і ў больш кароткі тэрмін. Вялізарнейшы ўздым творчай ініцыятывы рабочых мас, магутная хваля соцыялістычнага спаборніцтва, якая ахапіла ўсю рабочую клясу, ударныя брыгады, ударныя цэха, ударныя фабрыкі і заводы зьяўляюцца найбольш яскравым выразам няўхільнай волі рабочае клясы ажыцьцяўляць, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, пастаўленыя перад ёю гістарычныя задачы.

Рашуча ажыцьцяўляемы партыяй курс на правядзеньне індустрыялізацыі, узмацненьне змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства на вытворчай базе паслужылі магутным штуршком у галіне соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Моцны тэмп калгаснага руху, захапіўшага ня толькі бядняцкія, але і шырокія серадняцкія масы сялянства, суцэльная колектывізацыя вялізарных зямельных масываў забясьпечвае рэальную магчымасьць ужо сёньня ня толькі замяніць, а значна перакрыць вытворчасьць кулацкіх гаспадарак вытворчасьцю калгасаў. На грунце ажыцьцяўленьня масавай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак партыя высунула лёзунг павароту ад політыкі абмежаваньня і выцясьненьня кулака да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы.

З процэсам перамаганьня індывідуальнае сялянскае гаспадаркі, які пачаўся, канчаткова падразаюцца карэньні, якія

харчуюць капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Капіталізм пазбаўляецца базы, якая яго харчуе. З колектывізацыяй вёскі выкарчоўваюцца апошнія карэньні капіталізму ў нашай краіне. Іменна адсюль расьце тое шалёнае і роспачлівае супраціўленьне, якое робяць капіталістычныя элемэнты калгаснаму руху. Капіталізм ня можа не разумець, што іменна зараз і адбываецца той „апошні рашаючы бой“, які канчаткова вырашыць яго лёс, яго існаваньне.

У гэтых складаных умовах справаздачна-перавыбарчая кампанія партворганаў набывае зусім выключнае палітычнае значэньне. Прадстаячая справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна разглядацца, як генэральная праверка ўсіх нашых парторганізацый, праверка палітычнай лініі кожнага асобнага партыйнага зьвяна, праверка таго, наколькі кожная асобная ячэйка, кожны асобны комуністы зразумеў задачы, якія стаяць перад партыяй.

У сувязі з справаздачна-перавыбарчай кампаніяй, ЦК КП(б)Б высоўвае наступныя важнейшыя палітычныя і практычныя задачы:

1. Пасьпяховае вырашэньне вялізарных і складаных задач соцыялістычнага будаўніцтва, ажыцьцяўленьне соцыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты, ліквідацыя кулацтва як клясы, патрабуе ад партыі, як авангарду пролетарыяту, несакрушымай згуртаванасьці шэрагаў і няпрымірымай барацьбы з ухіламі ад генэральнае лініі партыі, у першую чаргу з правай ідэолёгіяй і практыкай, як галоўнай небясьпекай для партыі на даным этапе, а таксама неаслабнай барацьбы з рэшткамі троцкізму, з „левымі“ загібамі і прымірэнцтвам. Ва ўмовах КП(б)Б актуальнае значэньне мае таксама праверка палітычнай лініі парторганізацыі ў нацпытаньні, здольнасьць кожнай асобнай ячэйкі і кіруючага активу змагацца з усякімі хістаньнямі і ухіламі ў нацполітыцы, з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з шовінізмам вялікарускім, яўрэйскім і інш.

2. Важнейшай задачай, якая стаіць перад партыяй і рабочай клясай, зьяўляецца пасьпяховае выкананьне пяцігодкі, выкананьне і перавыкананьне ўсіх колькасных і якасных паказчыкаў промфінпляну. Маючыяся матар'ялы, характарызуючыя выкананьне промфінпляну за першы квартал, сьведчаць аб тым, што шэраг нашых вытворчых партыйных ячэек адстаюць, не павярнуліся яшчэ тварам да вытворчасьці, ня сумелі яшчэ стаць на чале актыўнасьці рабочых мас. Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна даць круты перелом у гэтых адносінах. Неабходна магчыма паўней выявіць тыя партыйныя організацыі і пасобных комуністых на вытворчасьці, якія ня ідуць на чале і ня здольны організаваць актыўнасьць рабочае клясы вакол задач соцыялістычнага будаўніцтва, не праяўляюць патрэбнай актыўнасьці ў соц. спаборніцтве, ударніцтве, цягнуцца ў хвасьце і слаба вядуць барацьбу супроць усякіх рвацкіх, вузка-цэхавых настрояў з боку некаторых адсталых груп рабочых. Справаздачна - перавыбарчая кампанія парторганаў павінна быць у максымальнай меры скарыстана для таго, каб дабіцца новага ўздыму на вытворчасьці, дзеля пагалоўнага ўцягненьня ўсіх комуністых ва ўдарныя брыгады, для забесьпячэньня пасьпяховага выкананьня промфінпляну.

3. У вясковых парторганізацыях справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна праводзіцца пад пунктам праверкі таго, наколькі кожная асобная ячэйка, кожны асобны комуністы актыўна ўдзельнічае ў калгасным будоўніцтве, стаяць на чале калгаснага руху бядняцка-серадняцкіх мас, організуюць работу ўнутры калгасу, як важнейшае зьвяно, за якое зараз патрэбна ўхапіцца. Неабходна памятаць, што ў пасеўнай кампаніі бягучага году мы ставім задачу ня толькі пашырыць пасеўную плошчу, але і павысіць ураджайнасьць, з такім разьлікам, каб таварная прадукцыя калгасаў у гэтым-жа годзе ня толькі пакрыла таварныя лішкі былых кулацкіх гаспадарак, але ў некалькі разоў іх перакрыла. Адгэтуль адказьнейшая работа над стварэньнем у калгасах сапраўды соцыялістычнай вытворчасьці працы, соц. спаборніцтва, ударніцтва і г. д.

Кожны вясковы комуністы павінен ня толькі сам састаяць у калгасе, але і быць актыўным організатарам унутры калгасу, праводзіць рашучую барацьбу з усякімі індывідуалістычнымі, дробна-ўласьніцкімі

імкненьнямі з боку тых ці іншых груп калгаснай масы. Важнейшай гаспадарчай і палітычнай задачай, якая стаіць перад усімі парторганізацыямі, зьяўляецца энэргічная работа па падрыхтоўцы пасеўнай кампаніі, організацыя шырокіх батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вакол асноўных мерапрыемстваў падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. 100-процантнае выкананьне пляну аграмаджаньня насеньня ў калгасах, ачыстка насеньня, аграмаджаньне сродкаў вытворчасьці, аграмаджаньне жывёлы, рашучая барацьба з разбазарваньнем жывёлы і сродкаў вытворчасьці, рамонт сельска-гаспадарчага інвентару, энэргічнае ўцягненьне батракоў у калгасы і г. д. Неабходна праверыць кожны вучастак гэтай работы і, выходзячы з гэтага, ацэньваць работу кожнай вясковай ячэйкі, райкому і асобнага комуністага, працуючага на вёсцы. Парторганізацыі павінны ўсе сілы накіраваць на тое, каб ператварыць прадстаячую пасеўную кампанію ў сапраўдную бальшавіцкую пасеўную кампанію.

4. Лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы павінен праводзіцца цьвёрда і рашуча, без усялякіх адцяжак і перагібаў. Шалёнаму супраціўленьню клясавага ворага—кулака, кулацкай агітацыі, кулацкаму тэрору павінен быць дан рашучы адпор, спробы актыўнага супраціўленьня кулацтва павінны быць зьнішчаны.

Ажыцьцяўленьне задачы па ліквідацыі кулацтва як клясы патрабуе ад партыйных організацый і кожнага асобнага комуністага цьвёрдай бальшавіцкай лініі, самай энэргічнай работы па організацыі і згуртаваньні батрацка-бядняцкіх мас. Неабходна бязьлітасна выкрываць тыя асобныя вясковыя ячэйкі, тых асобных комуністых, якія яшчэ і на сёньнешні дзень недаацэньваюць сур'ёзнага значэньня работы па організацыі батрацка-бядняцкіх мас. Такая недаацэнка і неразуменьне ўсёй важнасьці работы сярод батрацтва і беднаты павінна быць асуджана самым рашучым чынам, як шкоднейшая праява права-опортуністычнага ўхілу. Неабходна праверыць, што кожная ячэйка, кожны комуністы робіць у галіне організацыі батрацка-бядняцкіх мас і дабіцца рашучага пералому ў гэтым пытаньні ва ўсіх вясковых парторганізацыях.

5. Перад савецкімі ячэйкамі стаіць асноўная задача па праверцы лініі і практычных вынікаў, дасягнутых у галіне палепшаньня савецкага апарату, яго перабудовы, арабачэньня і рашучай барацьбы з усякімі бюрократычнымі скажэньнямі клясавай лініі. Неабходна з усёй дакладнасьцю праверыць, як савецкая ячэйка змагалася з опортуністычнай практыкай, меўшай месца ў рабоце некаторых савецкіх устаноў (зямельных, фінансавых, сампромкоопэрацыі і інш. установах і організацыях).

6. Вялікі ўздым у рабочай клясе, масавае ўступленьне рабочых ў партыю ў ленінскія дні сьведчыць аб узмацненьні сувязі партыі з масамі, пэўным падтрыманьні генэральнай лініі партыі з боку рабочае клясы. Гэта забясьпечвае выкананьне пастановы XII зьезду КП(б)Б аб давядзеньні да канца 1930 г. проценту рабочых і батракоў у складзе КП(б)Б да 50%, у больш кароткі тэрмін, менавіта да XIII зьезду КП(б)Б.

Неабходна праверыць, як ідзе рост партыі па асобным організацыям, высьветліць прычыны, якія тармозяць рост партыі за лік рабочых, батракоў па асобным ячэйкам і дабіцца далейшага ўзмацненьня росту за лік найбольш перадавых, актыўных, прыкладных на вытворчасьці рабочых і работніц, батракоў і перадавых беднякоў-калгасьнікаў.

7. Аднэй з важнейшых задач прадстаячай справаздачна-перавыбарчай кампаніі зьяўляецца таксама праверка лініі ў галіне правідловага правядзеньня нацполітыкі. Неабходна праверыць практычныя вынікі кожнай асобнай організацыі ў галіне правядзеньня беларусізацыі апарату і культурнай работы па абслугоўваньню нацменшасьцяў на роднай мове. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на праверку таго, наколькі кожная асобная парторганізацыя вяла актыўную барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і з усякім шовінізмам (расейскім, яўрэйскім, польскім і інш.), наколькі кожная асобная організацыя здольна і ў далейшым забясьпечыць цьвёрдае кіраўніцтва і правідловае правядзеньне ленінскай лініі ў нацполітыцы.

8. Пытаньне аб узмацненьні і падрыхтоўцы новых кіруючых пролетарскіх кадраў зьяўляецца адным з найбольш

баявых пытаньняў і патрабуе энэргічнай работы з боку ўсіх парторганізацый. Неабходна праверыць, што канкрэтна праведзена ў гэтай галіне і наколькі кожная паасобная організацыя сумела забясьпечыць выкананьне пастаноў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) па пытаньню аб узмацненьні кіруючых пролетарскіх кадраў.

9. Наяўнасьць шэрагу сур'ёзьнейшых прарываў па некаторым партыйным організацыям, выяўленых за мінулы пэрыяд, кажа аб тым, што важнейшы лёзунг партыі аб разгортваньні самакрытыкі мас „ня гледзячы на асобы", у некаторых нашых організацыях яшчэ не знайшоў патрэбнага праламленьня. Важнейшай задачай справаздачна-перавыбарчай кампаніі зьяўляецца праверка таго, наколькі кожная парторганізацыя забясьпечыла ўмовы для шырокага разгортваньня самакрытыкі „ня гледзячы на асобы", наколькі кожная асобная організацыя праводзіць рашучую барацьбу з усякімі элемэнтамі зажыму і глушэньня самакрытыкі, наколькі ўсе нашыя парторганізацыі забясьпечылі дзейнасьць самакрытыкі.

10. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на пытаньне марксыцка-ленінскай падрыхтоўкі комуністых; неабходна праверыць, наколькі кожная асобная парторганізацыя справілася з задачамі падвышэньня тэорытычнага ўзроўню і выхаваньня членаў партыі, з задачай абхопу новага партыйнага папаўненьня, што канкрэтна праведзена для ўздыму марксыцка-ленінскага ўзроўню партыйнага актыву.

11. Справаздачна-перавыбарчая кампанія парторганаў павінна быць у максымальнай меры скарыстана для паскарэньня тэмпу перабудовы работы ўсіх партыйных, профэсыянальных, савецкіх організацый у адпаведнасьці з новымі задачамі. Неабходна ў процэсе справаздачна-перавыбарчай кампаніі перабудаваць сетку партыйных ячэек на вёсцы ў сувязі з масавай колектывізацыяй, шырока ўкараніць і організацыйна замацаваць новыя мэтады і формы (організацыя сэктараў па райкомах і ячэйках, шырокае прыцягненьне партактыву да работы і г. д.).

Для пасьпяховага вырашэньня гэтых задач ЦК КП(б)Б рэкамэндуе:

а) забясьпечыць самы актыўны ўдзел усёй партыйнай масы ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі шляхам максымальнага прыцягненьня партыйнай масы, а ў першую чаргу партактыву да праверкі работы кіруючых парторганаў, вывучэньня розных галін работы і актыўнага абгаварэньня справаздач парторганаў;

б) справаздачы бюро ячэек, парколектываў, райкомаў і г. д. павінны папярэдня ўсебакова абгаварвацца на паседжаньнях бюро і пленумаў;

в) забясьпечыць самае шырокае разгортваньне самакрытыкі „ня гледзячы на асобы", організаваць самы ўважлівы вучот усіх прапаноў і заўваг выступаючых на сходах і ў друку таварышоў;

г) на вытворчых ячэйках ставіць даклады аб рабоце ячэек на рабочых сходах, пры чым пры распрацоўцы рэзолюцый па спрвваздачах уважліва ўлічыць усе дзелавыя прапановы рабочай масы;

д) справаздачна-перавыбарчыя сходы як у гарадзкіх ячэйках, гэтак і ў вясковых, праводзіць адкрытыя, з шырокім прыцягненьнем рабочай масы, батракоў і бядняцкага-калгаснага актыву.

е) перавыбары праводзіць пры стражэйшым захаваньні ўнутрыпартыйнай дэмократыі, пры самым шырокім абгаварэньні паасобных кандыдатур, з забесьпячэньнем пэрсанальнага (а не па сьпісках) галасаваньня;

ж) пры перавыбарах кіруючых парторганаў дабівацца значнага павялічэньня ў іх складзе рабочых ад варштату, у вясковых організацыях—сельска-гаспадарчых рабочых, батракоў, а таксама жанчын работніц і батрачак і перадавых калгасьнікаў;

з) забясьпечыць самы шырокі ўдзел газэт друкаваных і насьценных у справаздачна-перавыбарчай кампаніі парторганаў, шырока асьвятляючы ітогі работы, недахопы і дзелавыя прапановы;

і) правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі парторганаў ні ў якім выпадку не павінна мець адмоўны ўплыў на правядзеньне ўсіх важнейшых кампаній (пасеўная, перавыбары саветаў і інш.), а наадварот—садзейнічаць яшчэ большаму ўзмацненьню кіраўніцтва гэтымі кампаніямі і мобілізацыяй мас вакол выкананьня задач, якія стаяць перад намі.

Прадстаячая праверка работы ўсіх парторганізацый і перавыбары кіруючых парторганаў павінны быць у максымальнай меры скарыстаны для яшчэ большага падвышэньня якасьці партыйнага кіраўніцтва, далейшага ўзмацненьня сувязі парторганізацый з пролетарскімі масамі, яшчэ большага згуртаваньня бальшавіцкіх шэрагаў на аснове ленінскае лініі партыі, для яшчэ большай мобілізацыі рабочае клясы, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства вакол партыі, вакол асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

**Цэнтральны Камітэт Комуністычнай Партыі (б) Беларусі.**

Сьмірноў.

# Задачы калгасаў у веснавую пасеўную кампанію.

Генэральная лінія партыі накіравана на індустрыялізацыю краіны і на рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Правільнае цьвёрдае ажыцьцяўленьне гэтай лініі, узмацненьне кіруючай ролі рабочае клясы ва ўсім сацыялістычным будаўніцтве, згуртаваньне батрацтва, беднаты і серадня́коў навокал калгаснага руху і тыя посьпехі, якіх мы дасягнулі за апошні год у стварэньні тэхнічнае базы для рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, усё гэта дало магчымасьць і забясьпечыла тыя вялізарныя тэмпы калгаснага будаўніцтва, якія мы ўжо атрымалі.

Асабліва гіганцкія разьмеры набыў калгасны рух за першыя 4 месяцы 1929-30 г. За гэты час мы маем наступны рух калгаснай сеткі па Беларусі.

| | На І-Х 1929 г. | На І-ХІІ 1929 г. | На І-І 1930 г. | На І-ІІ 1930 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колькасьць калгасаў . . . | 1713 | 1989 | 2414 | 3328 |
| Агульная плошча зямлі ў га . | 336720 | 955920 | 2036920 | 4126650 |
| Процант калектывізацыі . . | 3,83 | 10,86 | 23,15 | 46,9 |
| Сярэдні разьмер 1 калгасу ў га . | 197 | 481 | 844 | 1240 |

Улічваючы ўсё ўзрастаючы тэмп руху бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, усё ўзрастаючую творчую энэргію і ініцыятыву батрацтва, беднаты і серадня́коў у справе будаўніцтва калектыўных форм земляробства, студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б высунуў перад партыяй, рабочай клясай і ўсёй пралетарскай грамадзкасьцю „практычную задачу“ *поўнасьцю калектывізаваць усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР да канца 1931 году.*

„Маючыяся на сёньнешні дзень дасягненьні калгаснага будаўніцтва даюць упэўненасьць у тым, што гэтая задача будзе вырашана ў больш кароткі тэрмін, чым у 2 гады. Зараз на вёсцы адбываецца вялікая праца па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, па поўнай перабудове дробнай гаспадаркі ў гаспадарку буйную сацыялістычную, на падставе высокай тэхнікі. Зараз на вёсцы адбываецца магутны рух бядняцка-серадняцкіх мас за калгасы, рух, які накіраваны на выкарчоўваньне карэньняў капіталізму, што выклікае асабліва абвостраную і жорсткую клясавую барацьбу. Замацаваньне калгаснага будаўніцтва і яго далейшае разьвіцьцё ў раёнах суцэльнай калектывізацыі патрабуе *хутчэйшага выкананьня задачы па раскулачваньню.* Зараз партыя зрабіла паварот у сваёй палітыцы ў вёсцы, паварот, які высоўвае задачу ліквідацыі кулацтва як клясы. Ліквідацыя кулацтва як клясы разумеецца ў тым сэнсе, што мы пазбаўляем кулака вытворча-эканамічнай базы, што мы яго раскулачваем. *Раскулачваньне зьяўляецца неат'емлемай часткай і вынікам суцэльнай калектывізацыі.* Усе сродкі вытворчасьці трэба ў організаваным парадку забраць у кулака і перадаць у агульнае карыстаньне калгасаў, у іх непадзельныя капіталы. Пры чым калгасы, прыняўшы гэтую маемасьць кулацкіх гаспадарак, павінны яе скарыстаць так, каб атрымаць ад яе найвялікшы гаспадарчы эфэкт, ні ў якім разе не допускаючы распыленьня гэтай маемасьці па паасобных гаспадарках, уваходзячых у калгас.

Наступную веснавую пасеўную кампанію мы павінны правесьці, як казаў т. Молатаў— „па-бальшавіцкі“. Мы павінны па-бальшавіцкі праводзіць усе мерапрыёмствы, зьвязаныя з вясновай кампаніяй, па-бальшавіцкі кіраваць імі і па-бальшавіцкі падыйсьці да ўсяго калгаснага руху.

Галоўнейшыя моманты наступнай вясновай с.-г. кампаніі—гэта: поўнае абагуленьне сродкаў вытворчасьці ў калгасах і стварэньне неабходных насенных фондаў; арганізацыя плянавага засеву яравога кліну; узьняцьцё ўсяго калгаснага будаўніцтва на вышэйшую ступень шляхам падвышэньня якасных паказчыкаў; павялічэньне непадзельных капіталаў у калгасах, шырокая мабілізацыя сродкаў самага насельніцтва калгасаў з адначасовай і рашучай барацьбой з маючыміся выпадкамі разбазарваньня сродкаў вытворчасьці; пашырэньне пасеўплошчы, узьняцьце ўраджайнасьці, павялічэньне стада буйнай рагатай жывёлы, пашырэньне пасеву кармавых траў і караньплодаў; стварэньне ў калгасах машына-конных і трактарна-конных баз; правядзеньне вясновай с.-г. кампаніі мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва; далейшая арганізацыя новых калгасаў і іх арганізацыйнае і гаспадарчае ўзмацненьне. Безумоўна маючыяся тэмпы калектывізацыі ні ў якім выпадку нельга аслабляць, альбо стрымліваць, а, наадварот, іх патрэбна будзе ўсямерна пашыраць і ўзмацняць. Паколькі ўжо зараз калектывізавана каля 50 проц. ад усёй плошчы БССР, зусім рэальнай магчымасьцю зьяўляецца ахоп калектывізацыяй каля 70 проц. зямельнай плошчы БССР да канца 1930 г. Паскараючы і ўзмацняючы тэмпы калектывізацыі, неабходна разам з гэтым замацаваць арганізаваныя калгасы, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на абагульваньне сродкаў вытворчасьці калгасаў, на арганізацыю і ўзмацненьне ў іх непадзельных капіталаў.

Асаблівую ўвагу неабходна зараз зьвярнуць на стварэньне насенных фондаў у калгасах і на абагульваньне ў іх жывёлы. Тое, што на 1-II—30 г. па БССР абагулена толькі 32,7 проц. патрэбных для вясновага засеву фондаў (замест 155.469,5 тон абагулена толькі 50.919,4 тоны) паказвае на вельмі нядбайныя адносіны да гэтай справы з боку мясцовых савецкіх і коопэрацыйных установаў. Абагульваньне жывёлы таксама ідзе надта марудна і на 1-II—г.г. абагулена толькі 36,2 проц. патрэбнай колькасьці.

Наогул, да вырашэньня цэлага шэрагу задач, якія пастаўлены партыяй і ўрадам у сувязі з падрыхтоўкай да вясновага севу, мы толькі прыступаем. Часу засталося мала, а працы шмат. Трэба, каб усе партыйныя, савецкія, коопэрацыйныя і грамадзкія організацыі, як у цэнтры, так і на мясцох, на працягу бліжэйшых дзён дабіліся рашучага пералому ў справе хутчэйшага і поўнага абагуленьня ў калгасах усіх сродкаў вытворчасьці і стварэньня неабходных насенных фондаў, праводзячы самую рашучую барацьбу з выпадкамі разбазарваньня жывёлы, прыцягваючы да адказнасьці і суровых пакараньняў злосных застрэльшчыкаў разбазарваньня жывёлы. Тыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія перад уступленьнем у калгас, альбо будучы ў калгасе, разбазарылі сваю маемасьць, павінны ня прымацца ў калгас, альбо выключацца з апошняга; іх прыём дапушчаецца толькі пры ўмове дадатковага ўзносу сродкаў у разьмеры каштоўнасьці разбазаранай жывёлы. Насенныя фонды павінны ствараццa за лік абагуленьня калгаснага насеньня, канфіскацыі насеньня ў кулацкіх гаспадарках у парадку іх раскулачваньня, а таксама за лік максымальнага разгортваньня мясцовых загатовак і завозу яўна нехапаючай колькасьці насеньня.

У шэрагу выпадкаў на мясцох адчуваецца тэндэнцыя недаацэнкі ў сучасны момант коннай цягі ў калгасах. Гэтыя тэндэнцыі ствараюць умовы, спрыяючыя разбазарваньню коняй у калгасах. Паколькі замена коннага інвэнтару інвэнтаром машыннай цягі ў бліжэйшы час немагчыма з-за адсутнасьці дастатковай колькасьці трактароў і прычапнога інвэнтару, трэба даць самы рашучы адпор усім тым, хто проста ці косьвенна абараняе разбазарваньне коняй. Трэба прыняць самыя энэргічныя меры па арганізацыі пры буйных калгасах і куставых аб'яднаньнях калгасаў, асабліва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, машына-конных і трактарна-конных станцый зьмешанага тыпу, а таксама міжпаселішчных машына-конных станцый. Трэба ставіць пытаньне такім чынам, каб у кожным буйным калгасе былі арганізаваны машына-конныя станцыі. У кожнай калектывізаванай вёсцы трэба заставіць толькі

такую колькасьць цягавай сілы, якая патрэбна для гэтай вёскі. Асгатнія коні патрэбна здаць у цэнтральныя станцыі, дзе яны будуць прыстасаваны для іншых работ (перавозкі, лесазагатоўкі і г. д.). Трэба вылучыць адказных працаўнікоў, якія-б кіравалі ўсёй гэтай працай.

Разам з організацыяй машына-конных станцый мяркуецца організаваць шэраг трактарна-конных станцый зьмешанага тыпу. Там, дзе маюцца ў калгасах трактары, трэба аб'яднаць усю цягава-конную сілу і больш рацыянальна скарыстаць трактары, коні і маючыйся с.-г. інвэнтар. Трактарна-конныя станцыі організуюцца там, дзе маецца ня менш 10 трактароў і 100 коняй. У гэтым годзе мы ня зможам поўнасьцю задаволіць вялізарнейшыя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца калгасным рухам. Мы маем войстры недахоп і ў угнаеньнях, і ў жалезе і г. д., ня гледзячы на ўсе прынятыя меры. Пагэтаму неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на поўную мабілізацыю і скарыстаньне ўсіх мясцовых сродкаў, якія ў нас маюцца.

Трэба поўнасьцю мабілізаваць усе мясцовыя магчымасьці і сродкі ў адносіне рамонту с.-г. інвэнтару, скарыстоўваючы мясцовыя жалезна-чыгуначныя майстэрні, а таксама зьбірая маючыяся як у гэтых майстэрнях, так і ў саматужна-прамысловых майстэрнях і ў вакольных сялянскіх гаспадарках, старае нескарыстоўваемае жалеза і іншыя мэталі, а таксама організуючы збор попелу, улічваючы, што апошняе мерапрыёмства набывае выключна важнае значэньне ў сувязі з амаль поўнай адсутнасьцю калійных угнаеньняў у наступную вясеньнюю пасеўную кампанію. Вельмі важна таксама разгарнуць працу сярод калгасьнікаў і калектывізыруючагася насельніцтва нагогул па збору і скарыстаньню ў мэтах угнаеньня торфу, ажыцьцяўленьне мерапрыёмстваў па вапнаваньню глебы і г. д.

Дагэтуль мы яшчэ слаба разгарнулі кампанію па збору сродкаў на набыцьцё трактарных абавязацельстваў трактарацэнтру і калгасцэнтру СССР. Каб задаволіць трактарамі і машынамі запатрабаваньні калгаснага будаўніцтва, дзяржаве трэба пабудаваць шэраг новых машына-будаўнічых і трактарных заводаў. Для хутчэйшай пабудовы гэтых заводаў дзяржаве патрабуюцца грошы, якія павінны даць у першую чаргу калгасьнікі.

Да 1 красавіка мы павінны сабраць па БССР трактарных абавязацельстваў на 2.000.000 руб. Аднак пакуль што на 1 II—30 г. сабрана толькі 114.078 руб. Гэта вельмі мала. А сабраць гэтыя 2.000 000 руб. нам трэба ва што-б та ні стала, таму, што атрымаць больш чым 308 трактароў, якія нам занараджаны ў гэтым годзе, спадзявацца ня прыходзіцца.

Дадаткова мы атрымаем толькі такую колькасьць трактароў, якая вызначыцца сумай, сабранай да 1-IV—г. г. трактарных абавязацельстваў. Другі шлях, па якому мы зможам атрымаць патрэбныя трактары—гэта шлях нашых экспартных нарыхтовак, нарыхтовак другараднай сыравіны (рагі, капыты, косьці, конскі волас і г. д.). Трэба завайстрыць увагу калгасных мас навокал гэтага пытаньня. Трэба зрабіць калгасы асяродкамі па організаванаму збору другараднай сыравіны, прыцягнуўшы да гэтага шырокія масы вакольнага бядняцка-серадняцкага сялянства. Усім вядома, што ў аснове організацыі калектыўнай вытворчасьці ляжыць абагуленьне сродкаў вытворчасьці сялянскага насельніцтва. Уся абагульваемая ў калгасе маёмасьць залічваецца ў паявы ўзнос членаў за выключэньнем той часткі маёмасьці, якая перадаецца ў непадзельны фонд калгасаў. Згодна пастановы 3-й Сэсіі Савету Белкалгасцэнтру, адлічэньні ў непадзельны фонд вытвараюцца наступным чынам:

Тыя гаспадаркі, каштоўнасьць абагульваемай маёмасьці якіх складае 300 руб., адлічаюць у непадзельны фонд 15 проц.; маючыя маёмасьць на суму ад 300 да 500 руб. адлічаюць 20 проц.; ад 500 да 1000 руб. адлічаюць 40 проц. і маючыя звыш 1000 руб. адлічаюць у непадзельны фонд 50 проц. каштоўнасьці абагульваемай маёмасьці. Бядняцкія гаспадаркі ўносяць уступных узносаў ад 5 да 10 р. Серадняцкія гаспадаркі ўносяць уступных ад 10 да 100 руб. у залежнасьці ад маёмаснай заможнасьці ўступаючай у калгас гаспадаркі па правілах устаноўленых агульным сходам калгасаў. Батракі і с.-г. рабочыя, ня маючыя гаспадаркі, вызваляюцца поўнасьцю як ад уступных і паявых узносаў, так і ад узносаў у непадзельны фонд калгасаў.

У мэтах пасіленьня непасрэднага кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам з боку партыі і пралетарыяту—партыяй і прафсаюзамі пасылаюцца ў калгасы 600 рабочых; ёсьць пастанова ЦК Партыі аб дадатковай мабілізацыі 500 рабочых і, акрамя таго, зараз мабілізуецца 100 адказных працоўнікаў цэнтральных установаў для пасылкі іх у калгасы. Для палепшаньня рахункаводзтва ў калгасах пасылаюцца прафсаюзнымі органамі 200 рахункаводаў на сталую і 500 рахункаводаў на часовую працу ў буйныя калгасы і куставыя аб'яднаньні. Калгасы з свайго боку павінны зрабіць усё магчымае для таварыскага прыёму пасылаемых да іх рабочых і іншых працаўнікоў.

Зараз у калгасах праводзіцца справаздачна-перавыбарчая кампанія, якая павінна адыграць надзвычайна вялікую ролю ў справе выкананьня тых вялізарных задач, якія зараз стаяць перад калгасным будаўніцтвам.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна зьявіцца ўзмацняючым фактарам да падрыхтоўкі вясновай пасеўнай кампаніі. Цэнтральнай задачай павінна зараз зрабіцца генэральная праверка падрыхтаванасьці калгасных мас да пасеўкампаніі, праверка таго, што зроблена калгасамі да поўнага ажыцьцяўленьня агра-мінімуму, для вырашэньня мясной праблемы, для большага павялічэньня пагалоўя жывёлы і хутчэйшага разьвіцьця сьвінаводзтва.

Важнай задачай зьяўляецца забесьпячэньне правільнай клясавай лініі ва ўсёй дзейнасьці і разьвіцьці калгасаў. Гэтая задача можа быць вырашана пры ўмове, калі будзе забясьпечана актыўная работа батрацка-бядняцкіх груп у кожным калгасе. Гэтыя групы павінны ўдзельнічаць у чыстцы калгасаў ад кулацка-нэпманскіх элемэнтаў і павінны дапамагчы ў ліквідацыі кулацтва як клясы. Дагэтуль вельмі мала зроблена па ўцягненьню ў калгасы шырокіх батрацкіх мас і па забесьпячэньню кіруючых калгасных органаў батрацкім складам. За 4 м-цы 1929-30 г. у калгасы БССР уцягнута толькі 2.365 батракоў у той час, калі згодна маючыхся дырэктыў перад калгасыстэмай пастаўлена практычная задача на працягу лютага і сакавіка м-цаў уцягнуць у калгасы ня менш 60.000 батракоў, з тым, каб да канца 1930 г. усё батрацтва БССР было цалкам уцягнута ў калгасы і каб кіруючыя органы кожнага калгасу былі ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі забясьпечаны батрацкім складам. У справаздачна перавыбарчую кампанію трэба вырашыць задачу аб большым уцягненьні жанчын у сацыялістычнае будаўніцтва, трэба забясьпечыць актыўны ўдзел жанчын у будаўніцтве калгасаў. Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна праходзіць пад пунктам погляду самага рашучага змаганьня з усякай нядбайнасьцю, хібамі, ненармальнымі зьявішчамі. Таму асаблівую ролю набывае разгортваньне самакрытыкі ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі, бо самакрытыка зьяўляецца магутным сродкам прыцягненьня мас для актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.

Найлепшым спосабам узьняцьця творчай ініцыятывы шырачэйшых працоўных мас у справе выкананьня пляну сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца сацыялістычнае спаборніцтва. Перавыбарчая кампанія павінна зьявіцца паласой новага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва ў калгасах. Трэба арганізаваць працу так, каб у спаборніцтва ўцягнуць поўнасьцю ўсе калгасы і куставыя аб'яднаньні калгасаў БССР, паставіўшы канкрэтнай мэтай спаборніцтва найбольш лепшае і поўнае выкананьне пляну вясновай с.-г. кампаніі і наогул вырашэньне стаячых перад імі гаспадарча-культурных задач. Адначасова трэба арганізоўваць ударныя брыгады калгасьнікаў і ўдарныя калгасы, скарыстоўваючы прыклад і вопыт буйных прамысловых прадпрыёмстваў.

А. Шматкоў.

# За выразную партыйную лінію.

Пастаўленая задача па ліквідацыі кулацтва як клясы была падрыхтавана ўсёй папярэдняй палітыкай нашай партыі.

І іменна таму, што партыя падрыхтавала магутны рух калектывізацыі, арганізавала ў барацьбе за калектывізацыю батрацтва і бядняцка-серадняцкія слаі вёскі, на глебе гэтага найвялікшага руху, за масавую суцэльную калектывізацыю, калі ў калгасы масай пайшоў серадняк, паўстала задача ліквідацыі кулацтва як клясы, палітыка раскулачваньня кулака, што ўжо і робіцца ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Але шэраг нашых камуністых не зразумелі правільнасьць лініі партыі сучаснага пэрыяду, лініі, якая заключаецца ў тым, што мы зараз праводзім, ня голае раскулачваньне (прыкладна, якое праводзілася ў 1918-1919 гг.), а „абагульненьне кулацкіх сродкаў на базе суцэльнай калектывізацыі, як патрэбны практычны вывад з суцэльнай калектывізацыі цэлых раёнаў і акруг і няпрыняцьця кулакоў у калгасы“ („Праўда“ за 2/II-30 г.).

Гэта значыць, што палітыка раскулачваньня і ліквідацыі кулацтва як клясы, ёсьць палітыка, якая арганічна выцякае з суцэльный калектывізацыі, зьяўляецца яе непарыўным зьвяном, яе завяршэньнем.

Гэтыя камуністыя не зразумелі правільнасьці партыйнай лініі ў справе раскулачваньня, не маглі зразумець і таго, што раскулачваньне павінна быць арганічна зьвязана з сапраўдным масавым калгасным рухам беднаты і серадняцкага сялянства, што суцэльная калектывізацыя і згуртаванасьць батрацтва, беднаты і серадняцтва супроць кулака зьяўляецца неабходнейшай умовай палітыкі раскулачваньня і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Такое незразуменьне партыйнай лініі мы мелі дзе-ні-дзе, маем і зараз у некаторых раёнах Бабруйшчыны, Меншчыны, і асабліва Мазыршчыны. Некаторыя камуністыя і схільны расцэньваць палітыку раскулачваньня, як палітыку, якую трэба праводзіць зараз-жа, безадкладна ва ўсіх мясцох і раёнах. Такая ўстаноўка ідзе ў разрэз з лініяй нашай партыі, ідзе ў разрэз з тым, што палітыка раскулачваньня зьяўляецца вынікам палітыкі суцэльнай калектывізацыі, яе арганічнай часткай. Такая ўстаноўка няправільна яшчэ і таму, што палітыка раскулачваньня ня зьвязваецца з масавым калгасным рухам беднаты і серадняцтва.

Такая ўстаноўка няправільна яшчэ і таму, што тут у палітыцы раскулачваньня не паказваецца, што яна павінна быць вынікам суцэльнай калектывізацыі.

У сувязі з такім няправільным разуменьнем павароту ў палітыцы партыі ў адносінах да кулака ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, ужо маецца шэраг памылак і ў нізавых партыйных арганізацыях.

Так, „у Вузьдзенскім раёне (Менскай акругі) раскулачваньне было пачата адміністрацыйным парадкам без папярэдняй масавай растлумачальнай работы сярод батракоў і беднаты. Раскулачваньне ў шэрагу сельсаветаў (у Лашанскім і Слабада-Парышаўскім с/с-тах) праводзіцца не на аснове колектывізацыі. У гэтых сельсаветах было праведзена раскулачваньне, ня гледзячы на тое, што калгасы ў іх яшчэ не організаваны“.

Аб такой-жа „палітыцы“ маецца шэраг паведамленьняў і з некаторых раёнаў Бабруйскай акругі (Парыцкі і Любаньскі раёны).

Вось чаму, такім спробам аддзяліць раскулачваньне ад правядзеньня суцэльнай колектывізацыі, а тым больш пад-

мяніць суцэльную калектывізацыю адміністрацыйным раскулачваньнем, без узмацненьня працы па калектывізацыі, партыя будзе даваць цьвёрды і рашучы адпор, як „палітыцы“, якая супярэчыць генэральнай лініі партыі.

Для кожнага камуністага павінна быць зусім ясна, што партыя праводзіць лёзунг раскулачваньня толькі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, толькі на базе суцэльнай калектывізацыі.

* * *

Якая-ж палітыка павінна праводзіцца ў тых раёнах у адносінах да кулака, якія яшчэ не перайшлі да суцэльнай калектывізацыі? Ясна, што ў гэтых раёнах дзейнічае політыка абмежаваньня і выцісканьня капіталістычных кулацкіх элемэнгаў і па меры таго, як бядняцка-серадняцкія масы будуць падрыхтоўвацца да калектывізацыі, будуць згуртоўвацца навакол задач партыі ў барацьбе з кулацтвам і будуць пераходзіць да масавай суцэльнай калектывізацыі— мы пяройдзем ад палітыкі абмежаваньня і выцісканьня кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы.

Гэты асаблівы падыход ў палітыцы партыі на дадзеным этапе ў адносінах раёнаў суцэльнай колектывізацыі і раёнаў бяз суцэльнай колектывізацыі выцякае з таго, што ў раёнах суцэльнай калектывізацыі мы дамагліся максымальнай ізоляцыі кулака, згуртавалі батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы вёскі вакол задачы партыі—па социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі на падставах калектывізацыі, „гэта-ж важнейшая палітычная ўмова, якая надзвычайна палягчае правядзеньне мерапрыёмстваў па ліквідацыі кулацтва як клясы, адсутнічае па-за раёнамі суцэльнае калектывізацыі“.

(„Правда“).

Але, „нельга абазначаць лёзунгі „ліквідацыі кулацтва як клясы“ і „абмежаваньня кулацтва“, як два *самастойных і роўнапраўных* лёзунгі. З часу пераходу на палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы гэты апошні лёзунг зрабіўся *галоўным* лёзунгам, а лёзунг абмежаваньня кулацтва ў раёнах бяз суцэльнай калектывізацыі ператварыўся з самастойнага лёзунга ў лёзунг *дапаможны*, у лёзунг уздапаможны ў адносінах галоўнага лёзунга, у лёзунг, які палягчае ў гэтых апошніх раёнах падрыхтоўку ўмоў для пераходу да галоўнага лёзунгу“.

(Сталін).

* * *

Побач з памылкамі, якія выцякаюць з няправільнага разуменьня палітыкі раскулачваньня і ліквідацыі кулацтва як клясы,—якія таксама прадстаўляюць нямалую небясьпеку ў скажэньні лініі партыі, мы маем шэраг другіх памылак, якія зыходзяць з прымірэнчых адносін да кулака.

Падамо некалькі прыкладаў:

„У Круглянскім раёне суцэльнае калектывізацыі (Аршанскай акругі), дзе калектывізацыяй ахоплена ўжо каля 100 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, мясцовыя організацыі да раскулачваньня практычна яшчэ амаль ня прыступілі. Бядняцка-серадняцкія масы да гэтай важнейшай палітычнай задачы ня прыцягнуты“.

„У Чэрыкаўскім раёне (Магілеўскае акругі), які калектывізаваны на 95 проц., ліквідацыя кулацтва праходзіць вельмі вяла і амаль бяз удзелу батрацтва і беднаты“. Аб такім-жа становішчы паведамляюць і з Ветрынскага раёну (Полацкай акругі).

Ня кажучы ўжо аб тым, што такія прымірэнчыя адносіны да кулака ідуць на карысьць толькі кулацтву ў яго шалёнай барацьбе супроць калектывізацыі, даюць яму пэўны тэрмін на разбазарваньне „сваёй“ жывёлы і маемасьці, садзейнічаюць барацьбе супроць выкарчоўваньня капіталізму ў вёсцы, супроць ліквідацыі кулацтва як клясы.

Ня можа быць ніякіх сумненьняў у тым, што падобныя элемэнты зьяўляюцца яскравымі прадстаўнікамі ідэолёгіі „мірнага ўрастаньня кулака ў социялізм“, прадстаўнікамі правага ўхілу. З такімі адносінамі да кулацтва і іх носьбітаў партыя будзе змагацца як з правымі ўхілістымі, як з прымірэнцамі да клясавага ворагу. Рашучае выкрыцьцё такой практыкі і барацьбы з ёю зьяўляецца аднэй з галоўных задач суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Пастаўленая Студзеньскім Пленумам ЦК КП(б)Б задача — калектывізаваць БССР за два гады—патрабуе рашучай і бязьлітаснай барацьбы з носьбітамі правага ўхілу на практыцы, якія фактычна тармозяць і перашкаджаюць узмацненьню руху калектывізацыі ўсей БССР і выцякаючай з калектывізацыі задачы раскулачваньня.

Перамагаючы прымірэнчыя адносіны да ліквідацыі кулацтва з боку камуністых і паасобных савецкіх органаў, трэба раскулачваньне ў раёнах суцэльнай калектывізацыі праводзіць рашуча, арганізавана і хутка.

Усякая павольнасьць у справе раскулачваньня ў гэтых раёнах спрыяе ўзмацненьню супраціўленьня кулака і адыгрывае на карысьць кулакам і кулацкім ідэолёгам. У інтарэсах замацаваньня калгасаў і пасьпяховай падрыхтоўкі і выкананьні задач пасеўкампаніі і хутчэйшай перамогі цяжкасьцяй, зьвязаных з каранным пераломам у развіцьці сельскай гаспадаркі, раскулачваньне ў раёнах суцэльнай калектывізацыі павінна праводзіцца своячасова.

* * *

І ў канцы, трэба яшчэ і яшчэ раз завастрыць увагу на тым, што раскулачваньне павінна цьвёрда праводзіцца толькі ў адносінах да кулацтва. Аднак і ў гэтым напрамку шэраг матар'ялаў з акруг (прыкладна з Мазырскай і Бабруйскай,—Рагачэўскага і Парыцкага раёнаў) сьведчыць аб тым, што ў гэтых адносінах у нас нароблены памылкі.

У гэтых мясцох замест узмацненьня растлумачальнай працы сярод бядняцка-серадняцкіх мас аб задачах калектывізацыі і на чыю карысьць ідзе яе тармажэньне прымянялі мэтады арышту паасобных серадьякоў і нават беднякоў за тое, што яны яшчэ ня ўцямілі вялікай ролі калектывізацыі ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і ня ішлі ў калгасы. А ў некаторых вёсках Касьцюковіцкага раёну (Магілеўскай акругі) праводзілі „абагульненьне“ маёмасьці бедната і серадьякоў незалежна ад таго ці ўваходзяць гэтыя гаспадаркі ў калгас ці не,—адміністрацыйным парадкам.

Паўтарэньне такіх памылак у далейшым трэба рашуча папярэдзіць. Іх трэба рашуча прасякаць, узмацняючы масавую растлумачальную работу за заваяваньне гэтых серадьякоў і беднякоў на бок калектывізацыі і аслабаненьня іх з-пад уплыву кулацкай ідэолёгіі.

Адначасова трэба катэгарычна папярэдзіць усякае імкненьне скарыстаць якую-б та ні было канфіскаваную маёмасьць па-за калгасамі.

Уся канфіскаваная маёмасьць павінна ісьці ў калгасы і толькі **ў калгасы**, нават калі і няма калгасу ў сельсавеце і яна (маёмасьць) канфіскавана за разбазарваньне жывёлы і інш. павінна перадавацца ў калгасы іншых сельсаветаў. Уся гэта маёмасьць ідзе ў непадзельныя фонды калгасаў у якасьці ўзносу беднякоў і батракоў, якія ўступаюць у калгасы.

* * *

Выкананьне гэтай рашаючай задачы, ліквідацыі кулацтва як клясы зьяўляецца важнейшай задачай у раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Выкананьне гэтай задачы павінна праходзіць пры рашучым выпраўленьні ўсіх памылак, і перамогі ўсіх цяжкасьцяў, толькі ў барацьбе з клясавым ворагам, у барацьбе з усімі апортуністычнымі скажэньнямі лініі партыі, як з правым ухілам, больш небясьпечным у дадзены момант з прымірэнцтвам да яго, так і з „левымі“ загібамі, пад цьвёрдым кіраўніцтвам партыі змагацца за сацыялістычную перабудову вёскі.

Трэба арыентавацца на тое, каб групарторг аб'яднаў ня больш 4—5 камуністых і 15—20 беспартыйных рабочых. Няма патрэбы тлумачыць карысьці пашырэньня сеткі групарторгаў. Яна відавочна. Групавы партыйны арганізатар павінен вылучацца ў брыгадзе, арцелі і іншых першаістых вытворчых адзінках, з такім разьлікам, каб скласьці там нізавы „трохкутнік" з брыгаднага парторга, брыгадзіра і профдэлегата.

Дадатных бакоў у перабудове партыйнай работы будзе яшчэ больш тады, калі мы перанясём цэнтр цяжкасьці работы ў нізавое партыйнае зьвяно, калі ў работу будзе ўцягнуты нізавы партыйны актыў.

Цяпер вернемся да сэктароў. Колькі і якія сэктары трэба ўтварыць пры бюро парткалектываў і ячэек прадпрыемстваў.

Пры ўсіх больш-менш буйных колектывах і ячэйках неабходна арганізоўваць наступныя сэктары: 1) Гаспадарча-вытворчы; 2) Культурна-масавы; 3) Вучобы; 4) агітацыі і друку; 5) Росту партыі і работы з кандыдатамі; 6) партнагрузкі (вучот і разьмеркаваньне); 7) работы сярод моладзі; 8) Работы сярод жанчын; 9) Падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў; 10) садзейнічаньне калектывізацыі.

Адносна сэктароў па рабоце сярод жанчын, трэба мець на ўвазе, што іх неабходна ўтвараць толькі ў тым выпадку, калі жанчыны складаюць меншую частку рабочых прадпрыемства. Там-жа, дзе жанчыны-работніцы прадстаўляюць большасьць рабочых прадпрыемства, справа ўсебаковага абслугоўваньня іх інтарэсаў павінна быць справай усіх арганізацый прадпрыемства.

У цэхавых ячэйках лік сэктароў скарачаецца, але арыентыровачна трэба лічыць мэтазгодным утварэньнем наступных сэктароў: 1) Гаспадарча-вытворчы; 2) Вучобы; 3) Агітацыі; 4) Росту і работы з кандыдатамі, 5) Работы сярод моладзі, альбо жанчын, у залежнасьці ад колькасьці тэй ці іншай групы ў цэху.

Гэтыя агульныя паказаньні адносна ліку сэктароў і аб мэтадах падыходу да перабудовы партыйнай работы на прадпрыемствах, трэба пристасоўваць да канкрэтных умоў кожнага прадпрыемства. Прыкладна, калі справа ідзе аб утварэньні сэктароў у буйных калектывах і цэхавых ячэйках, то лік сэктароў можна павялічыць і ўтварыць яшчэ: 1) Прафсаюзны сэктар; 2) Інфармацыйна-статыстычны сэктар; 3) Ваенны сэктар і г. д.

Але перабудова партработы па сыстэме сэктароў можа апраўдаць сябе толькі тады, калі ў якасьці арганізатараў сэктароў і іх намесьнікаў будуць вылучаны лепшыя актывісты, здольныя ўзьняць работу сэктара на належную вышыню. Праблема працаздольных арганізатараў сэктароў стаіць вельмі востра і зусім зразумела, *калі арганізатары сэктароў будуць складацца з лепшых, актыўных сіл данага калектыву, ці цэхавай ячэйкі, то ідэя сэктароў цалкам сябе апраўдае. У адваротным выпадку можна намаляваць добрую схэму, прыгожую з усіх бакоў, а справа рухацца ня будзе.*

І другая заўвага. Вядома, што да гэтага часу паседжаньні нас літаральна „заядаюць". Вядома, што шмат карысьці ад „агульных разважаньняў" чакаць ня прыходзіцца, таму пераход да сэктароў ні ў якім разе не павінен пацягнуць за сабой павялічэньне ліку ўсялякіх паседжаньняў. Уся работа сэктароў павінна праходзіць у апэратыўным парадку. *Утварэньне сэктароў па сваёй сутнасьці адмаўляе шматлікія паседжаньні, здольныя затармазіць справу.*

## Задачы сэктароў.

Падрабязны разгляд задач сэктароў справа асобнага артыкулу. Мы тут падамо толькі асноўныя вехі, па якіх павінна праходзіць работа сэктароў. Што робяць, чым займаюцца паасобныя сэктары?

**1. Гаспадарча-вытворчы сэктар**: ажыцьцяўляе кантроль над выкананьнем дырэктыў парткалектыву па гаспадарча-вытворчых пытаньнях, арганізуе ўцягненьне ў вытворчую працу ўсіх рабочых, работніц, інжынэраў і г. д. Праз адпаведныя арганізацыі сочыць за разгортваньнем социялістычнага спаборніцтва, вывучае прычыны недавыкананьня промфінпляну і выпрацоўвае мерапрыемствы па зьнішчэньню недахопаў у гаспадарча-вытворчым жыцьці прадпрыёмства, ажыцьцяўляе дырэктыву партыі аб адзінаначальлі і правярае кіраўніцтва цэхавых ячэек гаспадарча-вытворчай работай.

**2. Культурна-масавы сэктар:** сачыць за пастаноўкай культурна-масавай работы на прадпрыемстве: работа ў абедзены перапынак, за наладжваньнем экскурсій, за ліквідацыяй няпісьменнасьці, за своечасовай падрыхтоўкай і зьместам масавых кампаній, за зьместам усіх мер па культурна-масаваму абслугоўваньню рабочых, складае частку агульнага пляну ячэйкі, арганізуе і правярае выкананьне работы ў галіне культурна-масавага абслугоўваньня рабочых.

**3. Сэктар вучобы:** арганізуе і кіруе сеткай партасьветы, яе камплектаваньнем, сочыць за наведваньнем форм партасьветы членамі ячэйкі, сочыць за зьместам і ўмовамі работы форм партасьветы, кантралюе вучэбную работу іншых арганізацый заводу і ажыцьцяўляе кіраўніцтва сэктарамі вучобы пры цэхавых ячэйках.

**4. Сэктар агітацыі і друку:** арганізуе хуткае рэагаваньне з боку ячэйкі на запросы рабочых, сочыць за ўцягненьнем рабочых ва ўсе масавыя, агітацыйныя кампаніі, арганізуе выкарыстоўваньне абедзенага перапынку для гутарак, чытак, пытаньняў і адказаў, сочыць і дапамагае ў рабоце рэдкалегіі газэты, сочыць за падпіскай на літаратуру, кантралюе выкананьне дырэктыў партыі па рабоце з рабкорамі, мобілізуе ўвагу газэты і рабкораў па пытаньнях, якія патрабуюць разьвязваньня ў дадзены момант.

**5. Сэктар росту партыі і работы з кандыдатамі:** улічвае асабовы склад, вывучае рост ячэйкі і становішча работы з кандыдатамі, сочыць за пастаноўкай работы з беспартыйным актывам у напрамку яго вярбоўкі ў шэрагі партыі, праводзіць індывідуальнае прымацаваньне камуністых для падрыхтоўкі рабочых да ўступленьня ў партыю, вывучае прычыны адсеву і выпрацоўвае практычныя прапановы па ўзмацненьню росту.

**6. Сэктар партнагрузкі:** улічвае нагрузку і яе выкананьне членамі ячэйкі, вылучае камуністых на вызначаныя работы, улічвае партыйны актыў і сочыць за яго правільным скарыстаньнем, падрыхтоўвае пытаньні вылучэньня па партыйнай лініі, вядзе вучот і разьмеркаваньне партыйных сіл.

**7. Сэктар работы сярод моладзі:** кантралюе за ажыцьцяўленьнем дырэктыў партыі ячэйкай ЛКСМБ, арганізуе практычную дапамогу парторганізацыі ў рабоце калектыву КСМ, сочыць за ідэолёгічным зьместам работы КСМ, вылучае праз ячэйку КП(б)Б камуністых для дапамогі ў выкананьні работы ячэйкі КСМ.

**8. Сэктар работы сярод жанчын:** арганізуе выбары, інструктаваньне і кіруе работай дэлегатак, сочыць за культурным абслугоўваньнем работніц, за стварэньнем абставін спрыяючых лепшаму ўдзелу работніц у вытворчым і грамадзкім жыцьці прадпрыемства.

**9. Сэктар падрыхтоўкі і вылучэньня кадраў:** трымае сувязь з фабзаўкомам і добраахвотнымі таварыствамі, улічвае ўвесь беспартыйны актыў заводу (праз адпаведныя організацыі), наладжвае работу па падрыхтоўцы новых пластоў актыву з камуністых і беспартыйных рабочых, праводзіць усе паказаньні вышэйстаячых парторганаў у галіне вылучэньня.

**10. Сэктар садзейнічаньня калектывізацыі:** сочыць за выкананьнем партыйных дырэктыў у галіне ўдзелу рабочых мас у справе калектывізацыі вёскі, кіруе наладжваньнем выездаў рабочых брыгад у вёску, праводзіць праз адпаведныя організацыі растлумачальную работу сярод рабочых аб чарговых задачах партыі і савецкай улады ў справе калектывізацыі, сочыць за работай шэфтаварыства і аказвае яму дапамогу, вывучае становішча калектывізацыі ў падшэфным раёне.

У наступным нумары „Партыйнага Работніка“ будуць зьмешчаны канкрэтныя дырэктывы ЦК аб рабоце сэктараў. Мы хочам зьвярнуць увагу на тое, што сэктары павінны ня толькі вывучаць становішча работы, *але і штурхаць уперад справу, цікавіцца канкрэтным зьместам работы.*

## Павярнуцца тварам да вытворчасьці.

Мы ўжо гаварылі аб тым, што аднэй з галоўнейшых задач перабудовы партработы на прадпрыемствах зьяўляецца задача павароту „тварам да вытворчасьці“ партыйных, прафсаюзных і камса-

мольскіх арганізацый. Нельга сказаць, што пытаньні вытворчасьць не стаялі перад парторганізацыямі да гэтага часу. Але *якасьць* гэтай работы часта знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Возьмем такі важны паказчык, як выкананьне промфінпляну за першы квартал гэтага гаспадарчага году. Што мы тут наглядаем? Недавыкананьне промфінпляну, адставаньне па цэламу шэрагу важнейшых вытворчых паказчыках. *Аб чым гэта сьведчыць?*

> Аб тым, што партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў, ня гледзячы на тую цікавасьць, якую яны праяўляюць да вытворчасьці, не змаглі знайсьці „рашаючае вытворчае зьвяно" на дадзеным этапе работы. Гэта сьведчыць аб тым, што якасьць гэтага „вытворчага інтарэсу"—калі можна так сказаць, стаіць на вельмі нізкім узроўні, што гэта якасьць часта ня ідзе далей агульнай рэзалюцыі па агульнаму дакладу.

У сучасных умовах проста шкодна займацца агульнымі разважаньнямі аб уздыме вытворчасьці. Трэба, каб кожны парткалектыў забясьпечыў поўнае ажыцьцяўленьне вытворчай праграмы прадпрыемства, шляхам пільнай прапрацоўкі пяцёхгодкі сярод рабочых і давядзеньне яе да цэха, да брыгады і варштату, шляхам самага рашучага разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шляхам пагалоўнага ўцягненьня камуністых і комсамольцаў у соцыялістычнае спаборніцтва і ва ўдарныя брыгады. Ужо даўно пара перайсьці ад агульных, дэкляратыўных пастаноў па гаспадарчых пытаньнях да канкрэтнай прапрацоўкі іх, да вынясеньня чоткіх, ясных дырэктыў, якія грунтуюцца на сур'ёзным аналізе становішча вытворчасьці. Ужо даўно пара адмовіцца ад простага „штампаваньня" дырэктыў гаспадарчых органаў і прыняць актыўны ўдзел у сталым, глыбокім вывучэньні прычын таго, чаму дрэнна выконваецца дырэктыва партыі аб падвышэньні вытворчасьці працы, аб памяншэньні браку і прастояў і г. д. Для таго, каб выканаць гэтыя дырэктывы, трэба абавязкова ўвесьці ў практыку партыйнай нагрузкі—нагрузку гаспадарча-вытворчую, гэта значыць, лічыць за партыйную, нагрузку (і праводзіць праверку яе выкананьня)—удзел камуністых у рабоце вытворчых нарад, камісій, у рацыяналізатарскіх камісіях. Трэба дарučыць партыйцам у парадку партыйнай нагрузкі вывучэньне прычын браку, прастою, прычын павышэньня сабекошту ці паніжэньня вытворчасьці працы і г. д.

Пасьпяховы паварот „тварам да вытворчасьці" трэба ажыцьцяўляць і шляхам правільнай растаноўкі партыйных сіл па важнейшых цэхах прадпрыемства, шляхам пасіленьня вярбоўкі ў шэрагі партыі лепшай часткі рабочых і павялічэньня партыйнай праслойкі па гэтых цэхах. Калі будуць праведзены гэтыя мерапрыемствы, дык задача змаганьня за пасіленыя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, за поўнае выкананьне промфінпляну будзе разьвязвацца пры дапамозе новых пластоў рабочых-камуністых.

Няма патрэбы тлумачыць усім вядомае палажэньне, што камуністы павінен быць прыкладным рабочым на вытворчасьці.

> Але камуністы павінен быць ня толькі прыкладным рабочым. Ён павінен быць штурхачом, ініцыятарам, вытворчым энтузіястам. Цяпер ужо нельга абмежавацца „лёяльнай" формулай прыкладнага рабочага.

Перабудова партыйнай работы па сыстэме сэктараў павінна дапамагчы партыйным калектывам на справе павярнуцца „тварам да вытворчасьці". Задачы ў першую чаргу гаспадарча-вытворчага сэктару, закасаўшы рукавы, узяцца за выкананьне вытворчай праграмы свайго прадпрыёмства.

## Перавагі сыстэмы сэктароў.

Перавагі сыстэмы сэктароў можна ацэньваць толькі грунтуючыся на вопыце. Аўтар меў магчымасьць знаёміцца з работай сэктароў на заводзе „АМО" і Электразаводзе. На абодвых заводах сэктары сябе ўпаўне апраўдалі і па прыкладу партыйнай сеткі ўжо перабудоўваюць сваю работу прафсаюзныя і камсамольскія організацыі. Мы таксама павінны штурхануць справу рэорганізацыі форм і мэтадаў работы прафсаюзаў і камсамолу. Аднатыповасьць структуры партыі, прафсаюзаў і камсамолу на прадпрыемствах зьяўляецца неабходнай прадпасылкай работы па новаму. Што можна прапанаваць прафсаюзам і комсамолу? Будаваць сваю сетку, свае формы і мэтады работы па тыпу партыі, улічваючы своеасаблівасьці прафсаюзнай організацыі

(лік сэктароў, мэтады абрастаньня актывам і г. д.).

Ужо зараз можна ўпэўнена сказаць, што сыстэма работы па сэктарох дазволіць зрабіць рашучы паварот *ад унівэрсалізму* (калі адзін работнік робіць усё і нічога) *да дыфэрэнцыяцыі ў рабоце.* Стары камісійны мэтад ужо аджыў свой век. А што гэта менавіта так—даводзіць ня трэба. Аб чым гаворыць адставаньне нашых мэтадаў работы ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва? Аб чым гаворыць недавыкананьне вытворчай праграмы па шэрагу фабрык і заводаў? Аб тым, што „ў новых умовах трэба працаваць па новаму“, аб тым, што новыя ўмовы патрабуюць зьмены старых форм і мэтадаў работы.

Якія-ж перавагі дасьць нам сыстэма сэктараў, *калі мы будзем энэргічна праводзіць яе ў жыцьцё.*

**Па-першае:** сыстэма работы па сэктарах павінна ажыцьцявіць пэрсанальную адказнасьць за выкананьне партыйных дырэктыў і ўвесьці штодзенную праверку выкананьня гэтых дырэктыў.

**Па-другое:** сыстэма работы па сэктарах дазваляе цэнтр цяжкасьці работы перанесьці ў цэх, у нізавое зьвяно, што стварае ўмовы для згуртоўваньня навакол выкананьня асноўных мерапрыемстваў партыі шырокіх колаў камуністых і беспартыйных рабочых.

**Па-трэцяе:** сыстэма работы па сэктарах аслабаняе асноўных работнікаў калектываў і ячэек ад практычных дробязяй і накіроўвае іх увагу на разьвязваньне асноўных пытаньняў работы. Работнікі, якія будуць стаяць на чале сэктараў, у сваю чаргу маюць поўную магчымасьць спэцыялізавацца па дадзенай галіне працы.

**Па-чацьвертае:** сыстэма работы па сэктарах будзе садзейнічаць выхаваньню новых кадраў партыйнага і беспартыйнага актыву, бо ў работу калектыву ці ячэйкі будуць уцягнуты, амаль усе камуністыя. Лёзунг „няма партыйца без партыйнага абавязку“ можна правесьці на конкрэтнай справе.

Вось больш важныя перавагі новых форм і мэтадаў партыйнай работы.

У заключэньне трэба спыніцца на неабходнасьці шуканьня новых, больш удасканаленых форм партыйнай работы, бо „партыя рэволюцыйнага марксызму“ ў корані адмаўляе шуканьне абсолютна правільнай, годнай для ўсіх ступеняй рэволюцыйнага працэсу, формы партыйнай організацыі, а значыць, і мэтадаў яе работы. Наадварот, форма організацыі і мэтадаў работы цалкам вызначаецца асаблівасьцямі даных канкрэтных гістарычных абставін і тымі задачамі, якія з гэтых абставін непасрэдна выцякаюць.

З гэтага пункту гледжаньня зразумела, што ўсялякая організацыйная форма і адпаведныя мэтады работы могуць са зьменаю аб'ектыўных умоў разьвіцьця рэвалюцыі ператварацца з форм разьвіцьця партыйнай організацыі ў путы гэтага разьвіцьця; і наадварот, зрабіўшыся нягоднай, організацыйная форма можа ізноў стаць неабходнай і адзіна мэтазгоднай пры адраджэньні аб'ектыўных умоў“ (рэзалюцыя X Зьезду УсеКП(б) па пытаньнях партыйнага будаўніцтва).

Адсюль кожны партыйны калектыў і ячэйка павінны зрабіць належныя вынікі.



# ВОПЫТ МЕСЦ.

К. Бойка.

## Супроць правага ўхілу ў тэорыі і на практыцы.

*(Вынікі абсьледаваньня Быхаўскае райпарторганізацыі Магілеўскае акругі).*

Быхаўскі раён зьяўляецца адным з буйнейшых раёнаў у акрузе. Заможна-кулацкая праслойка ў раёне дасягае 8%, што зразумела ўскладняе яго працу. Але побач з тым ёсьць і значная пролетарская праслойка: завод „Ільліч“, дзе налічваецца да 500 з лішкам рабочых; батракоў і с.-г. рабочых у раёне каля 1.000 чал.; рабочых, занятых у мясцовай саматужнай прамысловасьці—350 чал. Пры наліччы яшчэ вайсковых частак у раёне, якія значна дапамагаюць у культурна-масавай рабоце, усё гэта складае спагадныя ўмовы для работы, чаго, зразумела, няма ў цэлым шэрагу іншых раёнаў. З вышэйадзначанага відаць, што сілы для выкананьня дырэктыў партыі ёсьць. Але трэба сказаць, што партыйныя дырэктывы аб рашучым наступленьні на капіталістычныя элемэнты ў раёне не набылі свайго праламленьня, наадварот, у Быхаўскім раёне трапляюцца клясычныя факты выкрыўленьня клясавае лініі, забываньня пра інтарасы беднаты і батрацтва, адсутнасьць сярод іх работы і правядзеньне на практыцы правага ўхілу.

А цяпер аб становішчы організацыі. Організацыя налічвае 234 чалавекі. У складзе яе жанчын толькі 4,7%, у той час, калі па акрузе процант жанчын у організацыі дасягае 12%. Па соцыяльнаму стану організацыя падзяляецца на: рабочых 116, з іх с.-г. рабочых і батракоў 9; сялян 88 чал., з іх беднякоў 52, сераднякоў 36, служачых 24 і іншых 1.

Такім чынам, з пададзеных лічбаў відаць, што ў організацыі вельмі мала с.-г. рабочых і батракоў. Што-ж зрабіў Райком КП(б)Б, каб дамагчыся пералому ў росьце організацыі за лік гэтых груп. Абсолютна нічога. Так, за год з 1 жніўня 1928 г. па 1-га жніўня 1929 г. у партыю прынята чатыры с.-г. рабочых і два батракі. Вельмі слабы рост організацыі за лік камсамолу. Так, калі за 2-ю палову 1928 г. камсамольцаў было прынята 7 чалавек, то за 1929 г. толькі 4. Побач з гэтым трэба адзначыць, што партпраслойка на заводзе „Ільліч“ зьменшылася з 12,6% да 10,6%.

З гэтых лічбаў відаць, што тэмп росту організацыі за лік рабочых і батракоў далёка не адпавядае дырэктывам партыі. Дзе карэньні слабасьці росту? На падставе вывучэньня матар'ялаў абсьледваньня, якое рабілася АК, можна напэўна сказаць, што гэтая слабасьць тлумачыцца перш за ўсё адсутнасьцю якой-бы та ні было работы з боку РК і ячэек у гэтым напрамку. Ёсьць пэўная недаацэнка гэтае работы ў ячэйках, а РК не давалася конкрэтных дырэктыў. Большасьць ячэек у раёне наогул слаба працуе. Практычная дапамога з боку РК аказваецца вельмі недастатковая. З 6-ці дакладаў, заслуханых на Бюро РК і ячэек, толькі 3—з папярэднім абсьледаваньнем. У выніку дрэннае сувязі і кіраўніцтва ячэйкамі з боку РК і адсутнасьцю з яго боку дапамогі ў рабоце, у цэлым шэрагу ячэек былі выпадкі разлажэньня, п'янства, сувязі з кулацтвам, скрыўленьня клясавае лініі і г. д. Факты:

Тошчыцкая ячэйка, з яе былым Сакратаром Вінаградавым, зьвязваецца з кулацкім і антысавецкім элемэнтам, стварае беспартыйны актыў з былога папа і яго жонкі, Лапуркі, высланага зараз за межы БССР, з кулака Сьцяпанава і іншых, наогул акаляючы сябе варожым элемэнтам. У ячэйцы разьвіваецца п'янства. Камуніст Ціханаў організуе арцель з

кулакоў. У спажывецкай коопэрацыі масавыя растраты, прысвойваньне грошай. Сакратар ячэйкі, будучы старшынёю спаж. коопэрацыі, узяў на службу дачку былога фабрыканта Ліўшыца. Коопэрацыйныя і грамадзкія організацыі пераходзяць у рукі антысавецкага і кулацкага элементу. У партыю пацягнуліся антысавецкія элементы. Так, былы поп Лапурка падрыхтаваў заяву і дастаў рэкомэндацыі для ўступленьня ў партыю. Узмоцнена рыхтаваліся стаць комуністымі і іншыя кулацкія і антысавецкія элемэнты. Рабочаму ўступіць у партыю было амаль немагчыма. Адзін рабочы, Рутқоўскі, які хацеў уступіць у партыю, быў недапушчаны гэтымі элемэнтамі. Яго компромэтавалі, і толькі чыстка партыі дала магчымасьць уступіць Руткоўскаму ў партыю. Усё гэта тварылася на працягу доўгага часу на вачох у ячэйкі. Райком-жа рэагаваў вельмі позна і то пасьля таго, калі на сакратара ячэйкі была пададзена заява, што ён згвалціў жанчыну. Але-ж антысавецкі элемэнт у ячэйцы лічыўся да часу абсьледаваньня.

Грудзінаўская партячэйка абслугоўвае адзін з буйнейшых савгасаў акругі. Там на працягу доўгага часу адбывалася шырокае п'янства і даходзіла да таго, што спыніць яго немагчыма было ніякім чынам. Тады асобныя камуністы знайшлі выхад для зьнішчэньня яго шляхам заключэньня дагавароў з беспартыйнымі рабочымі. Так, 28/VI 1929 г. быў заключаны паміж камуністым Ратнікам і беспартыйным рабочым Бутомам наступны дагавор:

„28 июня 1929 г. мы нижеподписавшиеся, Ратников и Бутомо, заключаем настоящий договор на спиртные напитки и даем друг другу согласие не пить спиртных напитков восемь месяцев—с 28 июня 1929 г. по 28-е января 1930 г. и накладываем штраф в размере 25 руб., если будет замечено за кем-нибудь". Да дагавору мяецца заўвага такога зьместу:—„*Выпивка двух бутылок пива разрешается. Повышать и понижать норму воспрещается. К сему подпись: Ратников и Бутомо". Дагавор зацьверджаны рабочым камітэтам.*

Побач з тым у спажывецкай і сел.-гасп. крэдытнай коопэрацыі доўгі час тварыліліся растраты, у складзе выбарчых ворганаў і да гэтага часу ёсьць заможныя і індывідуальна абкладзеныя. Былі выпадкі, калі поп меў па дзьве коопэрацыйныя кніжкі, атрымліваў тавары на дзьве і дапускаўся да разьмеркаваньня мануфактуры. Папоў сын у 1928 г. загадваў савгаскім клюбам, а мясцовыя камуністы і камсамольцы лічаць і да гэтага часу, што гэта добра. Крэдыты даваліся кулаком, папу і індывідуальна абкладзеным. Такім чынам было раздана больш 15% крэдыту: *мясцовы поп праз свайго сына атрымаў 702 руб., кулак Апрэляў—142 руб., Савін Мікола плоціць падатку 500 р., атрымаў 210 руб.* Гэты сьпіс можна-б павялічыць, але-ж і гэтага досыць для характарыстыкі, куды пайшлі крэдыты і хто грэў рукі за кошт пролетарскае дзяржавы. Праўда, усё праўленьне аддадзена пад суд, але гэта зроблена вельмі позна.

У рабоце савгасу да гэтага часу (да зьмены кіраўніка) была безгаспадарчасьць, растраты, падлогі, засьмечаньне адміністрацыі кулацкімі элемэнтамі. Сельскі савет працуе кепска, у яго рабоце няма клясавае лініі. Былі выпадкі выдачы лесу папу і дзяку. Цярпліва адносіліся да папа, які, дзякуючы папусьніцтву і злачыннасьці ў свой час мясцовае ўлады, атрымаў побач з савгасам 10 дзесяцін зямлі і за „дзяшоўку" купіў у савгасе дом.

У школе сялянскай моладзі была безгаспадарчасьць, засьмечаньне складу вучняў кулацкімі элемэнтамі і г. д.—усё гэта рабілася на працягу году і гэтага ні ячэйка, ні РВК, ні Райком ня бачылі. Агульныя партыйныя сходы наведваліся антысавецкім элемэнтам, а камуністы лічылі гэта нармальным. Так, калі 10/VIII з агульнага сходу быў выдален папоў сын, дык ён з крыўдаю напісаў заяву ў ячэйку, чаму гэта яго скомпромэтавалі на агульным партыйным сходзе.

У ячэйцы камуны „К. Лібкнехта", не ўважаючы на ўказаньні з боку ЦК КПБ аб палепшаньні работы, і да гэтага часу маюцца склокі, невыкананьне партдырэктыў РК і АК з боку ячэйкі. Са згоды ячэйкі быў проданы крухмал прыватніку, пасьля чаго яму (прыватніку) выносіцца падзяка ад камуны.

Можна было-б падаць фактаў значна больш аб становішчы асобных ячэек і іх рабоце, але-ж і гэтых досыць, каб

паказаць, што тут ня проста памылкі асобных комуністых ці ячэек, а гэта факты разлажэньня, факты скрыўленьня клясавае лініі. Праўда, РК, хоць і позна, на некаторыя з іх рэагаваў, але справа ў тым, чаму сваячасова партыйныя і савецкія організацыі не рэагавалі на гэтыя факты на працягу цэлага году і больш. Асноўная прычына гэтага—слабае, нікудышнае, павярхоўнае кіраўніцтва з боку РК і часткі ячэек установамі раёну, цярпімыя прымірэнцкія адносіны з боку раённых організацый да падобных злачынстваў, інакш тлумачыць ніяк нельга. Райком быў адарваны ад мас, у організацыі ня было самакрытыкі, адсюль недастатковая барацьба з хваравітымі зьявішчамі з боку РК.

Пры наліччы 8 проц. заможнае і кулацкае праслойкі ў раёне, як асноўны вынік для партыйнае організацыі павінен быў стаць—правесьці вучот аб'ектаў абкладаньня так, каб сапраўды былі абкладзены ў індывідуальным парадку ўсе кулацкія гаспадаркі. Але была дадзена загадчыкам Райфінчасткі РВК зусім няправільная дырэктыва, каб не абкладаць гаспадарак настаўнікаў-кулакоў. Гэтае тлумачэньне ён паўтарыў на Райпартсходзе, але чамусьці адпору падобнай установоўцы дадзена ня было, у выніку чаго пастановы сельскіх саветаў (Чырвонабераскі) аб абкладаньні кулацкае гаспадаркі настаўніка Зорыча, РВК доўга не зацьвярджаў. А калі ішла размова на сходзе Нова-Быхаўскае партячэйкі аб абкладаньні індывідуальным падаткам гаспадаркі настаўніка Шугава, дык прысутны на сходзе ячэйкі райінспэктар асьветы т. Руткоўскі прапанаваў ня выносіць на агульны сход беднаты пытаньня аб абкладаньні ў індывідуальным парадку гаспадаркі Шутава, бо, бачыце, „вы яго скомпромэтуеце, як настаўніка; я паеду ў раен, узгадню і дам вам адказ“. Усё гэта ніяк нельга інакш назваць, як прымірэнцтвам, у выніку чаго індывідуальнае абкладаньне ў раёне выканана на 70 проц. Побач з тым мы маем у Быхаўскім раёне цэлы шэраг фактаў, калі нядоімкі па с.-г. падатку, па страхоўцы і сумы па самаабкладаньню, засталіся ў пэўнай меры за заможнымі гаспадаркамі (Тошчыца, Тайманава, Грудзінаўка і інш.).

### Становішча сельскае гаспадаркі ў раёне.

У разьвіцьці сельскае гаспадаркі ёсьць некаторыя посьпехі, як пашырэньне пасеўнае плошчы, пашырэньне засеву тэхкультур, павялічэньне ўраджайнасьці, хоць вельмі яшчэ недастатковае. Павялічыўся соцыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі (калгасы і савгасы ў часе абсьледаваньня 1929 г. складалі 4,75% усяе плошчы). Але-ж укладаньне сродкаў у сельскую гаспадарку па лініі с.-г. крэдыт. т-ваў, дзякуючы няправільнаму накіраваньню іх, не давалі таго эфэкту па ўздыму бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, які патрэбен.

Пагэтаму, на выпраўленьне крэдытнае лініі ў Быхаўскім раёне трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо ці можна цярпець напрыклад, такое становішча, калі па Грудзінаўскаму крэдыт. т-ву сярэдняя пазыка для бедняка (лістапад 1928 г.) складае 70 руб., серадняка—65 руб., а заможніка—103 руб. Заявы беднаты задаволены на 69 проц., сераднякоў—на 73 проц., заможнікаў—на 84 проц. Па Глухаўскаму крэдытнаму т-ву—сярэдняя пазыка бедняку: на рабочую жывёлу складае 65,5 руб., серадняку—90 руб. па рагатай жывёле—бедняку 63,5 р., серадняку—70 р. Па с.-г. інвэнтару—бедняку сярэдняя пазыка—20,6 руб., серадняку—33,8 руб. Па Быхаўскаму крэдытнаму таварыству: бедната коопэравана па двух сельскіх саветах на 15-18 проц., заможныя і кулакі на 66 проц. Сярэдні памер пая аплочанага ў бедняка 5,91 руб., у кулака—5 руб.

У землябудаўніцтве, дзякуючы слабой увазе з боку РК і РВК, у мінулым годзе мела месца пашырэньне будаўніцтва хутароў супроць 1927 г.—з 5 проц. да 17 проц., прычым хутары вырэзваліся ў такіх мясцох, дзе ніякімі абсолютна меркаваньнямі не выклікаліся і іх атрымлівалі заможныя гаспадаркі (Холстава, Стопкі). У в. Тошчыцы ад землябудаўніцтва карысьць мелі заможнікі шляхам падзелу сваіх гаспадарак; таксама-ж заможнікі прадалі грамадзкую сенажаць і заплацілі за землябудаўніцтва. Прымаючы пад увагу, што бедната і маламоцныя сераднякі ад землябудаўніцтва вызвалены, дык і тут інтарэсы беднаты пастрадалі. Прычым аб гэтым некато-

рыя работнікі РВК старога складу ведалі, але-ж захадаў ніякіх ня прынялі. Вынікаў будаўніцтва мінулага году РК не падвёў. А РВК ў сваёй пастанове запісаў, што *„будаўніцтва хутароў паменшылася і дасягае 2 проц.“*. Нічога не сказаў аб Тошчыцы і махінацыях заможнікаў і ніякіх захадаў аб гэтым ня ўжыў. Гэта было пасьля рашэньня XV зьезду аб рашучым наступленьні на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, РК КП(б)Б, хоць і позна, але ставіў пытаньне перад загадчыкам Акр. ЗА аб Тошчыцы, але-ж апошнім меры былі ўжыты недастатковыя. Трэба наогул сказаць, што Акр. ЗА праводзіў лінію Прышчэпава на хутарызацыю сельскае гаспадаркі, бо чаго варта такая дырэктыва Акр. ЗА Быхаўскаму раёну за подпісам Нам. Загадчыка Акр. ЗА ад 9-VI 1928 г. за № 5 225:

*„На 1928 г. у В. раёне неабходна пабудаваць орыентыровачна 38 хутароў, 30 пасёлкаў і 1 сельска-гасп. арцель“.* Гэтыя факты павінны былі прымусіць АК КПБ праверыць практыку землеўпарадкаваньня і па ўсёй акрузе.

Спажывецкай коопэрацыяй коопэравана 76 проц. насельніцтва. Сярэдні пай дасягае 8 р. 50 к. Усё-ж, ня глядзячы на дырэктывы АК і коопэрацыйных організацый аб сваячасовым скарыстаньні фондаў коопэраваньня беднаты, усё-ж апошнія і да гэтага часу не скарыстаны (у суме 500 руб.). У спажывецкай коопэрацыі вельмі пашыраны растраты. Так, на кастрычнік 1928 г. яны складалі 21% паявога капіталу. Аб растратах 1929 г. дасканалых вестак няма, але-ж у асобных спажывецкіх таварыствах яны былі і дасягалі сумы 500 і больш руб.

*Трэба ўпэўнена сказаць, што судовая лінія ў гэтым напрамку надзвычайна слабая.*

Мы тут ня спыняемся на фактах выкрыўленьня лініі пры разьмеркаваньні хлеба, калі заможнікі атрымлівалі і продалі на рынак, а беднаце адмаўлялі (Н.-Тошчыца). Не гаворым таксама пра злачыннае разьмеркаваньне фонду прызначанага для дзяцей беднаты і ў школах. Яго атрымлівалі дзеці дзяка, папа і інш. Не гаворым таксама пра цэлы шэраг выкрыўленьняў клясавае лініі. Але досыць і таго, каб сказаць, што дырэктывы XV зьезду аб рашучым наступленьні на капіталістычныя элемэнты выконваліся нездавальняюча. Наадварот, абнаглеламу кулаку не давалася належнага адпору. У галіне колектывізацыі сельскае гаспадаркі трэба сказаць, што за 1929 г. з боку РК узята правільная лінія, як організацыя буйнага калгасу на 800 гэктараў. Партарганізацыя дастатковае ўвагі колектывізацыі не аддавала, вось чаму організаваныя колектывы ў 1928 г. на 46 проц. распаліся (з 13 распалася 6), а вытворчыя аб'яднаньні засьмечаны чужымі, кулацкімі, элемэнтамі.

Унутры партыйнае організацыі меў месца заціск самакрытыкі, не гаворачы ўжо аб слабым яе разьвіцьці. Райком не рэагаваў на заметку, надрукаваную ў „Магілеўскім Селяніне“ аб заціску самакрытыкі на „Ільлічу“, і гэтай заметцы да гэтага часу ня дадзена адпаведнае палітычнае ацэнкі. Райком ня ўжыў рашучых захадаў аб прапрацоўцы рашэньняў XVI партконфэрэнцыі ў організацыі і не мобілізаваў увагі організацыі на іх рэалізацыі конкрэтна ва ўмовах раёну.

Выходзячы з усяго гэтага, АК КП(б)Б прызнаў работу РК нездавальняючаю. Разам з гэтым вынес рашэньне за слабую работу і нездавальняючае кіраўніцтва, за правядзеньне ў практычнай рабоце правага ўхілу сакратара РК з працы зьняць, абвясьціўшы яму вымову. Зьняты таксама з працы Заг. АПА і жанорганізатар. Фракцыі РВК абвешчана вымова.

АК КПБ налажыў партыйнае спагнаньне на был. Заг. Акрземаддзелам і Акр. ФА. Поруч з тым АК КП(б)Б даў шэраг дырэктыў РК, ажыцьцяўленьне якіх аздаровіць становішча ў раёне.

Задача ўсяе партыйнае організацыі павінна быць накіравана да таго, каб мобілізаваць усю парторганізацыю на выкананьне гэтых дырэктыў. Раённая партыйная конфэрэнцыя Быхаўскага раёну цалкам ухваліла рашэньне АК. Конфэрэнцыя прайшла надзвычайна актыўна і гэтая актыўнасьць гаворыць за тое, што дырэктывы АК КП(б)Б у Быхаўскім раёне будуць выкананы. Трэба вурокі Быхаўшчыны ўлічыць цэламу шэрагу іншых організацый.

Паўлавец.

# Аб кіраўніцтве ўдарнымі брыгадамі.

*(На вопыце ячэек Кастрычнікаўскага раёну—Менск).*

Кастрычнікаўскі Райком праводзіць праверку работы ўдарных брыгад, вывучае ўдзел у іх комуністых і кіраўніцтва ўдарніцтвам з боку парт'ячэек.

Створаныя па ініцыятыве рабочай масы ўдарныя брыгады за кароткі тэрмін існаваньня садзейнічалі зьніжэньню сабекошту продукцыі, памяншэньню прагулаў на вытворчасьці, палепшаньню якасьці продукцыі, разгортваньню барацьбы з клясава-варожымі настроямі і ўзмацненьню працдысцыпліны.

Завод „Энэргія" вясной 1929 г. уступіў у спаборніцтва з заводам „Камунар". У кастрычніку былі падагулены першыя вынікі спаборніцтва. Сабекошт продукцыі зьніжаны на 8,4 проц. У чыгуналіцейным цэху сабекошт зьніжан за тры кварталы на 11,16 проц. Завод выпускае машыны і варштаты, складанай замежнай конструкцыі. На прадпрыёмстве організована 13 ударных брыгад, у якіх прымае ўдзел 120 рабочых. Ударнікі дабраахвотна зьнізілі расцэнкі па графасартоўках на 10 проц., па дэталях для камня-драбілак на 15 проц. і г. д. Але гэтыя відавочныя посьпехі ні ў якай меры не апраўдваюць тых недахопаў, якія яшчэ маюць месца на заводзе.

З 138 членаў і кандыдатаў заводзкай парторганізацыі толькі 21 партыец зьяўляецца ўдарнікам, што зусім ненармальна. У гэтым напрамку комсамольцы значна выперадзілі комуністых. З 130 членаў комсамольскага калектыву—85 зьяўляюцца ўдарнікамі. Такім чынам, з 120 ударнікаў—106 зьяўляюцца партыйцамі і комсамольцамі і толькі 14 ударнікаў—беспартыйныя рабочыя.

Гэты процант беспартыйных недапушчальна малы. 14 ударнікаў—3 беспартыйных рабочых на заводзе, дзе працуюць 823 ч., факт, які выразна сьведчыць, наколькі партколектыў ня здолеў узьняць шырокія масы беспартыйных рабочых на барацьбу за пасіленьне тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва.

На гэтым факце трэба асабліва заваструць увагу. Недапушчальна, калі 117 комуністых заводу Энэргія не зьяўляюцца ўдарнікамі. Гэта выразна характарызуе ролю партколектыву ў разгортваньні ўдарнага руху на прадпрыёмстве. Асобныя члены калектыву ня прымаюць удзелу ў соц. спаборніцтве, а плятуцца ў хвасьце. Бюро калектыву на гэта не рэагавала.

Зараз прывядзем некалькі прыкладаў выкананьня вытворчай програмы за 1-шы квартал 1929-30 г. па заводу „Энэргія". Вось падлік за два месяцы:

| | Трэба выканаць | Выканана |
|---|---|---|
| Графасартыровак . . | 90 | 60 |
| Сьвярлільных станкоў . | 130 | 79 |
| Такарных станкоў . . | 16 | 9 |
| Абутковых машын . . | 105 | 35 |

Наглядаецца зьніжэньне вытворчасьці працы на 18 проц. Сабекошт ліцьця замест зьніжэньня на 16,5 проц. павялічан на 3 проц. Лічбы гавораць аб невыкананьні прамфінпляну.

Завод Энэргія за 2 месяцы першага кварталу 1929-30 г. недавыканаў вытворчую програму на 17 проц. Брак па ліцейнаму цэху павялічыўся. Ліцейны цэх адчувае недахоп у рабочых, а між тым ёсьць выпадкі, калі рабочыя простойваюць без работы, павялічваючы гэтым прастой у іншых цэхах.

Вагавы цэх недавыканаў вытворчую праграму на 16 проц. Тут адчуваецца недахоп у інструмантах, маецца адзін шаблён на тры чалавекі. Рабочыя заўсёды ў шуканьні за майстрам—„дайце работы". Работы шмат, але ўсё-ж такі рабочыя ходзяць бяз працы. Бюро на гэта

не зьвяртала ўвагі. Ударнымі брыгадамі па сутнасьці ніхто не кіраваў: ні завадзкі камітэт, ні партыйны колектыў.

У сьвятле гэтых фактаў выразна выяўляецца роля парторганізацыі заводу Энэргія.

Некаторыя сябры бюро партколектыву займаліся очкаўціраццельствам, як АПА ячэйкі партколектыву, які інфармуе, што праца па цэхам праведзена добра, праведзены вучот гутарак і г. д., а калі праверылі—вышла наадварот, што нічога ў гэтым напрамку не рабілася. Удзел адміністрацыі ў соц. спаборніцтве недастатковы, вынікі аб дасягненьнях у цэхах ня вывешваюцца. Прапановы, якія ўносяцца рабочымі на вытворчых нарадах, як аб новым вынаходзтве, валяліся па 3-4 мес. і не праводзіліся ў жыцьцё. Самакрытыка на заводзе недастаткова разгорнута.

Пяройдзем да буйнага гарбарнага заводу „Бальшавік“. На заводзе маецца 800 ч., а ўдарных брыгад 10, удзел у рабоце брыгад прымае 200 ч. рабочых, з іх комуністых 160, альбо 82 проц., комсамольцаў 25 ч. На заводзе шырока разгорнута социялістычнае спаборніцтва. Дзякуючы ўплыву ўдарных брыгад, прагулы рэзка зьнізіліся, палепшылася якасьць продукцыі, вытворчая праграма выканана на 119 проц. Ударныя брыгады організаваліся стыхійна, у гэтым напрамку бюро партколектыву не правяло агітацыйна-растлумачальнай работы аб мэтах і задачах ударных брыгад. Кіраўніцтва партколектывам было недастатковым і фармальным. Дырэктыў цэх. ячэйкам канкрэтных ня дадзена, цэх. ячэйкі ў гэтым пытаньні плаваюць і беспартыйная маса абганяе некаторых комуністаў. Партколектыў не займаўся вывучэньнем работы ўдарных брыгад. Прыклад: адзін раз парколектыў гарбарні на бюро паставіў пытаньне аб соц. спаборніцтве фармальна, дзе была вынесена наступная пастанова:

> „Прапанаваць усім ячэйкам і цэхпрофбюро аб праверцы выкананьня прапаноў вытворчых нарад і камісій. Даручыць фракцыі фабкому правесьці працу сярод служачых заводакіраўніцтва аб социялістычным спаборніцтве паміж служачых і трэсту“.

Зусім недастаткова было парткіраўніцтва комсамольскай організацыяй: дырэктыў цэхавым ячэйкам аб правядзеньні масавай работы партколектыў не даваў. Партколектыў ня ведае прычын няпрыняцьця ўдзелу некаторымі комуністамі і комсамольцамі ва ўдарных брыгадах. Шматтыражная газэта недастаткова асьвятляла соцыялістычнае споборніцтва, за ўсе часы былі толькі 2 заметкі (аб рабоце ўдарных брыгад), ня гледзячы на тое, што газэта выходзіць штотыднёва.

Ячэйка „Чырвоная зорка“ налічвае сяброў КПБ—50 ч. і 21 комсамолец. Ударных брыгад налічваецца 12, удзельнічае 60 чал. Ахоп комуністых 72 проц. Праўда, энтузіязм у рабочых да соц. спаборніцтва вялікі і маецца шэраг посьпехаў, дзякуючы актыўнаму ўдзелу саміх рабочых. Праверка дагавароў паказала наступныя вынікі: павышэньне вытворчасьці працы да выработкі 52,74 кг. дражджэй на аднаго чалавека, памяншэньне заводзкіх выдаткаў па промфінпляну на 5 проц., павялічэньне зарплаты на 6,7 проц. Якія-ж недахопы маюцца ў ячэйцы і заўкоме. Папершае: недастатковы ўдзел комуністаў і комсамольцаў ва ўдарных брыгадах, якія ня былі застрэльшчыкамі гэтай справы, а, наадварот, маюцца некаторыя комуністыя, што плятуцца ў хвасьце мас. Комуністы прасовачнага цэху „Чырвоная зорка“ ня прымаюць ніякага ўдзелу ў соцыялістычным спаборніцтве, не зацікаўлены гэтым. Нават былі выпадкі, калі ў гэтым цэху вывесілі дагавор аб соц. спаборніцтве, ён быў сарваны і комуністы ня ведаюць, хто гэта зрабіў.

Дзякуючы недастатковай масавай рабоце, праведзенай ячэйкаю і заўкомам, а таксама адміністрацыяй заводу „Чырвоная зорка“, маюцца моманты павялічэньня прагулаў; прыклад: калі ўзяць за 1928-29 г. 2 квартала было прагулаў 0,48 проц., альбо 145 дзён, а ў 3 квартале 0,5, альбо 9 дзён, а на 4-м квартале ўжо маецца павялічэньне прагулаў—0,13 проц, альбо 19 дзён.

Ячэйка часта замест практычных прапаноў абмяжоўвалася фармальнай пастановай. Прывядзем пастанову ячэйкі аб ударных брыгадах такога зьместу: *„Слухалі: аб організацыі ўдарных брыгад. Пастанавілі: даручыць адміністрацыі ўзгадніць з саюзам“*. Вось якія „канкрэтныя“ пастановы на бюро ячэйкі выносяцца аб ударных брыгадах. Ці пры-

вядзем яшчэ такое рашэньне ад 9-XII 1929 г.: *„Павесьці растлумачыцельную работу сярод беспартыйных рабочых аб значэньні брыгад, уступіць у спаборніцтва паміж асобнымі, організаваўшы брыгады, дзе магчыма“*. Такія пастановы нічога канкрэтнага не даюць. Яны сьведчаць толькі аб фармальным адбаярваньні ад гэтай вялікай працы, замест таго, каб даць дырэктыву фракцыі заўкому ці намеціць свой плян правядзеньня масавай работы і заняцца асноўнымі пытаньнямі вытворчага напрамку. Ня дзіва, калі на агульным сходзе рабочых, дзе стаяла пытаньне аб соц. спаборніцтве і праверкі дагавароў, беспартыйныя рабочыя абвінавачвалі партыйную і комсамольскую ячэйкі ў тым, што яны ня прымаюць удзелу ў гэтай рабоце. Характэрны прыклад: у спрэчках выказаўся т. Юркевіч, які кажа:

> „Што вініць масы няма чаго, а патрэбна абвінавачваць толькі кіраўнікоў, мы зрушылі армію на спаборніцтва, а армія не зразумела задачы і мэты гэтага спаборніцтва“.

Самакрытыка ня была накіравана на тых, хто ня ўдзельнічае ў соц. спаборніцтве, комуністы ня сталі праваднікамі вялікай справы на вытворчасьці, а пляліся ў хвасьце мас. Гэта ні што іншае, як правы ўхіл на практыцы. Самакрытыка выкрыла слабыя месцы працы. Прывядзем прыклады, як беспартыйныя пішуць у насьценгазэту аб партыйцах:

> „Хвостизм“. Когда подписывали квасильщики социалистический договор, они вызвали последовать их примеру прессовочное отделение и машинный дом и соцдоговор был вывешен в указанных отделениях. И не смотря на то, что в этих отделениях работает много партийцев, например, в прессовочном отделении, там даже соц. договор сорвали в тот-же час и машинный дом встретил этот соц. договор с насмешкой и смеются, что квасильщики их вызывают, честь и слава квасильщикам... Стыдно всем, прессовочное и машинное отделения подтянитесь“ (Рабочий).

Як-жа праходзіць соц. спаборніцтва на чыгунцы МББ?

Трэба адзначыць, што чыгунка адстала ад другіх заводаў па соц. спаборніцтву. Партыйцы і комсамольцы, якія працуюць на чыгунцы, недастаткова ўцямілі вялізарныя задачы партыі і рабочае клясы ў соцыялістычным будаўніцтве. У майстэрні „Вялікага Рамонту Вагонаў“ маецца 483 рабочых, партыйцаў 95, комсамольцаў 45 чал. Ударных брыгад маецца 13, у іх ахвачана 120 чал., з іх камуністаў 28, комсамольцаў 27. Як бачым, ня ўсе комуністы прымаюць удзел у працы ўдарных брыгад. Дрэнна пастаўлена масавая праца. Насьценгазэта не асьвятляла работу ўдарных брыгад. Ячэйка не зацікавілася высьветліць прычыны, чаму з 95 камуністых прымаюць удзел ва ўдарных брыгадах 28 чал.

Бязумоўна, што ўдарныя брыгады павялічаюць нашы дасягненьні, яны сябе апраўдалі на працы. Напрыклад, праверка паказала, што вытворчасьць працы павялічылася на 15 проц. за 1-е паўгодзьдзе, г. зн. з таго часу, калі быў заключан дагавор па соц. спаборніцтву. Зьнізіўся сабекошт на 8 проц. Маюцца прапановы ўдарных брыгад у бок паляпшэньня вытворчасьці і ўдасканаленьня працы. Ударнікі атрымалі за лепшую працу прэмію ў 100 руб.

*Самакрытыка* навакол ударніцтва недастаткова разгорнута. Бываюць выпадкі, калі адміністрацыя затрымлівае прадастаўленьне майстэрняў рабочым для ажыцьцяўленьня ўмовы соц. спаборніцтва. Парт'ячэйка і мясцком адносіліся формальна да гэтай справы. Канкрэтных пастаноў ня было. Характэрны прыклад: заслухоўваючы інформацыю аб рабоце ударных брыгад, выносіцца такая пастанова:

> „Лічыць, што кіраўніцтва брыгадамі, як з боку адміністрацыі, так і МК ня было. Недастаткова заключаны дагаворы, ня вывешваліся дыяграмы на вытворчасьці, што-б паказвала на дасягненьні спаборніцтва (гэта самае мы маем у Дэпо МББ)“.

Пастанова Бюро ячэйкі Дэпо ад 19-XII наступнага зьместу: „Павясьці масавую работу па цэхах, асьвятляць яе ў н-газэце“. Яшчэ прыклад: на агульным сходзе партячэйкі сумесна з рабочымі ад 9-XI—стаяла пытаньне аб выніках праверкі соц. спаборніцтва, пастанавілі:

> „Вынікі рабочай брыгады зацьвердзіць. З-за разнастойнасьці вытворчасьці дагавор па соц. спаборніцтву з вагоннымі майстэрнямі расторгнуць. Вызваць на соц. спаборніцтва Смаленскае дэпо“.

Пастановы Пленуму ЦК КП(б)Б і Зьезду ударнікаў, не прапрацаваны. Задача партячэйкі і профорганізацый растлумачыць рабочай масе значэньне соц. спа-

борніцтва і падняць яе ініцыятыву ў гэтым напрамку. Ячэйцы патрэбна была заняцца канкрэтным пытаньнем, праверыўшы, што зроблена па соц. спаборніцтву і што робяць комуністы (ці зьяўляюцца яны застрэльшчыкамі ўдарных брыгад).

У ячэйцы няма ніякага вучоту аб соц. спаборніцтве і які зрух маецца ў бок паляпшэньня нашай вытворчасьці, як зьніжэньне сабекошту і г. д., а калі такога вучоту ня маецца, гэта сьведчыць аб незацікаўленасьці ячэйкі да вытворчасьці.

Ударных брыгад маецца 6, у іх працуюць 50 рабочых, а з 95 камуністых удзел прымаюць толькі 19 і 6 камсамольцаў, а з 285 рабочых і служачых Дэпо прымаюць удзел у брыгадах 50 чалавек.

Дэпо заключыла догавар са Смаленскім Дэпо па соц. спаборніцтву 1-XI-29 г. Праверкі выкананьня ўмоў дагавору ня было, з прычыны таго, што ён быў позна заключан.

*Ячэйка пуці—пасажырская МББ.* Ударнай брыгады на вытворчасьці няма. Удзел камуністых у соц. спаборніцтве недастатковы. Камуністы плятуцца ў хвасьце мас. Аб гэтым сьведчыць тое, што ячэйка ня цікавілася гэтым пытаньнем.

Догавар па соц. спаборніцтву заключан з таварнай станцыяй МББ, праверка якога паказала, што з 1-га чэрвеня па 1-е кастрычніка г. г. вытворчасьць працы ўзрасла на 39,36 проц., маецца зьніжэньне сабекошту па зьменцы шпал на галоўных пуцях на 48,41 проц., на станцыённай—на 18,86 проц. Памяншэньне прагулаў на 33,33 проц.

*Ячэйка палаты мер і вагі.* Соц. спаборніцтва праходзіць між сваімі цэхамі, з другімі ў соц. спаборніцтва яны ня ўступаюць, мотывуючы, што ў Беларусі ня маецца такое-ж вытворчасьці. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу рабочай масы, праводзячай паміж сабой соц. спаборніцтва, маюцца добрыя вынікі, напрыклад, зьніжэньне сабекошту на 8,6 процантаў (з 1 чэрвеня да 1-га кастрычніка 1929 г.), калі-ж узяць за цэлы год, дык атрымаем зьніжэньне сабекошту на 12%.

*Удзел комуністых:* некаторыя камуністы ў соц. спаборніцтве прымаюць актыўны ўдзел. 6 камуністаў і 9 камсамольцаў дрэнна адносяцца, не зьяўляюцца прыкладнымі для мас.

Бюро ячэйкі ў сваю чаргу прымала рашучыя меры да тых камуністых і камсамольцаў, якія ня прымалі ўдзел у соц. спаборніцтве і пляліся ў хвасьце.

Прыклад: у кузьнечным цэху працуюць чатыры комуністы і два беспартыйныя. Гэтыя комуністы ў соц. спаборніцтве ня прымалі ніякага ўдзелу (мотывуючы, што два беспартыйныя рабочыя пайшлі ў адпачынак і г. д.).

*Ячэйка КП(б)Б каўбаснай фабрыкі (Белмясгандлю).* Патрэбна адзначыць, што ячэйка і фабком таксама формальна аднесьліся да соц. спаборніцтва. Масавая работа аб соц. спаборніцтве на фабрыцы не вялася. Кіраўніцтва ячэйкі недаацэньвала ролі ячэйкі ў агульным жыцьці прадпрыемства. Ня была мобілізавана ячэйка на выкананьне асноўных задач партыі па разгортваньню соц. спаборніцтва. Ня было барацьбы з прагуламі, з п'янствам, з рвачаствам і г. д. Дзякуючы непасрэднаму ўдзелу рабочых ва ўдарных брыгадах маюцца некаторыя дасягненьні. Павялічаны нормы выпрацоўкі на 10 проц. (было 62 кіло, а зараз 68). Выпрацоўка ў кастрычніку і лістападзе параўнача з 1928-29 г. на аднаго рабочага ў дзень павялічылася на 48—50 проц. Рэальная зарплата рабочых у параўнаньні з 1927-28 г. павялічылася ў 1928-29 г. на 3½—4 проц., а ў 1929-30 г. за два месяцы, на 28—30 проц. Рабсіла павялічылася ў параўнаньні з 1927-28 г. і 1928-29 г. на 75 проц., а ўжо на 1929-30 г. за апошнія два месяцы на 80 проц.

Ударная брыгада падняла пытаньне аб тым, каб зьнішчыць выдачу рабочым кожны дзень па 200 гр. каўбасы, што складзе экономію ў 20.000 руб. у год, мотывіруючы тым, што рэальная зарплата дастаткова вялікая, каб можна было абыйсьціся бяз гэтага. Характэрна, што некаторыя комуністы фабрыкі супярэчылі гэтаму.

Патрэбна адзначыць, што актыўнасьць некаторых рабочых вельмі вялікая, прыклад: выклік беспартыйнага рабочага Васілеўскага.

„Я обязуюсь на соц. соревнование повысить добровольно норму по жиловке мяса на 16 пудов, т. е. вместо 24 пудов выжиловать 40 пудов, но одновременно администрация должна предоставить все возможности

> для выполнения этой работы, как то: не вызывать мастеров для выполнения черной работы. Носка мяса должна исключительно производиться чернорабочими, тогда мы действительно сумеем выполнить наш социалистический договор.
>
> А также вызываю последовать всех мастеров увеличить норму до 40 пудов, подмастерьев І-й руки до 35 пудов и подмастерьев ІІ-й руки до 30 пудов, тогда мы действительно *наш пятилетний план сумеем выполнить в течение 4-х лет*".

У адказ на выклік т. Васілеўскага пасьледваў выклік тав. Янушкевіча:

> „Принимаю вызов т. т. Василевского, Шатова, а также повышаю еще на один пуд., т. е. 41 пуд., для мастеров, 36 пуд., для подмастерьев І-й руки, 31 пуд для подмастерьев ІІ руки.
>
> Прошу последовать моему примеру всех мастеров и подмастерьев фабрики".

Зараз мы прывядзем прыклад таго, як у савецкіх партячэйках праламляюцца дырэктывы партыі па рэканструкцыі прамысловасьці. Прыклад:

*Ячэйка КП(б)Б банкаўскіх установ*: соцспаборніцтва праходзіць дрэнна. Ячэйка не займалася нават пытаньнем стварэньня ўдарнай брыгады, ня дзіва, што і да гэтага часу апошніх ня маецца. Ячэйка абслугоўвае 4 мясцкомы. Што-ж высьветлілася? Работа па соц. спаборніцтву праходзіць самацёкам, масавая работа кульгае, ячэйка не зацікавілася работай мясцкомаў, у напрамку разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва. Нават не пацікавіліся працай паказальнага мясцкому (які ячэйка вылучыла першым ва ўсіх галінах працы).

Паглядзім, як гэты паказальны мясцком праводзіць соц. спаборніцтва. Прыклад: на паседжаньні мясцкому ад 13/V-29 г. стаяла пытаньне аб соц. спаборніцтве. Якую-ж яны вынесьлі пастанову:

„Зьвярнуцца да ўсіх працаўнікоў нашай канторы з мэтай удзельнічаньня ў соц. спаборніцтве асобных аддзелаў у нашай канторы". На гэтым пастанова канчаецца. На адчыненым сходзе ячэйкі стаяла пытаньне аб соц. спаборніцтве, дзе вынесьлі пастанову наступнага зьместу: „*Сход лічыць неабходным разгарнуць масавую працу ва ўстановах, дзе праца яшчэ разгорнута недастаткова. Установы павінны ўзяцца за распрацоўку спаборніцтва*". На гэтым канец. Замест таго, каб распрацаваць канкрэтны плян аб правядзеньні масавай працы і даць установку фракцыі мясцкому, ячэйка займаецца вынясеньнем агульных рэзолюцый, у якіх няма жаднай патрэбы.

Такія-ж моманты маюцца і ў цэлым шэрагу іншых ячэек савецкіх установ.

Якія-ж можна зрабіць вынікі на аснове пададзенага матар'ялу?

Шматлікія з абсьледаваных ячэек, фабкомы і фабзаўмясцкомы праявілі фармальны падыход да соц. спаборніцтва. Канкрэтнай чоткай працы ня было. Некаторыя сакратары ячэек і фабзаўмясцкомаў асноўчых элемэнтарных пытаньняў разьвіцьця соцыялістычнага спаборніцтва ня ведаюць. Вельмі многа камуністаў і камсамольцаў, якія зусім ня прымаюць ніякага ўдзелу ў рабоце ўдарных брыгад, а плятуцца ў хвасьце.

Такія комуністы і комсамольцы зразумела ня могуць карыстацца аўторытэтам сярод шырокіх мас. Перадавыя беспартыйныя рабочыя апярэджваюць іх у соцыялістычным будаўніцтве.

Мы павінны паставіць пытаньне так, каб кожная ячэйка, кожны фабзаўмясцком правялі шырокую растлумачальную працу сярод шырокіх мас, растлумачваючы рашэньні верасеньскага пленуму ЦК КП(б)Б і рашэньні Усесаюзнага зьезду ўдарных брыгад.

Мы павінны організаваць рабочую масу навакол асноўных вытворчых пытаньняў, разгортваючы пролетарскую крытыку і самакрытыку з пункту погляду выкананьня соцыялістычнага будаўніцтва, уцягненьня ў работу па ўзьняцьцю вытворчасьці ўсіх комуністых і камсамольцаў і шырокіх мас працоўных.

Мы павінны складаць конкрэтныя пляны на аснове пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі. Задачай партыйных ячэек і фабзаўмясцкомаў зьяўляецца перабудаваць усю працу рэконструкцыйнага пэрыоду па новаму, у суадпаведнасьці з запатрабаваньнямі. Тады можна ўпэўніцца, што мы зможам выканаць пяцігадовы плян за чатыры гады.

Б. Шпітальнік.

# Работу з беднатой неабходна ўзмацніць.

*(Мазыр).*

Клясавая барацьба на вёсцы ўсё больш абвастраецца. Шпаркі тэмп колектывізацыі выклікае шалёнае супраціўленьне кулака. Кулак у сваёй барацьбе супроць колектывізацыі выкарыстоўвае ўсе сродкі, ідучы на просты ўдар (падпал, забойства) і пушчаючы свае шчупальцы ў савет, коопэрацыю і там вядучы сваю шкодную дзейнасьць.

Мы зараз прыступілі да ліквідацыі кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі. Тэмп колектывізацыі прыняў цяпер нябывалыя разьмеры. Гэта выклікае яшчэ большую барацьбу з боку кулацкіх элемэнтаў. І менавіта зараз, для больш пасьпяховага наступленьня соцыялізму на капіталістычныя элемэнты вёскі нам патрэбна організаванае, моцна скалочанае ядро батрацка-бядняцкіх мас вёскі. Пагэтаму неабходна было, каб работа з беднатою і батрацтвам, работа батрацка-бядняцкіх груп была пастаўлена на належную вышыню, каб у працы сходаў і груп беднаты ня было кампанейшчыны.

На жаль, шэраг партыйных ячэек і райкомаў КП(б)Б гэтаму важнейшаму пытаньню не аддалі максымум сур'ёзнай увагі, шэраг раённых організацый *яўна недаацанілі* гэту політычную задачу.

Дастаткова паказаць на тое, што значная частка ячэек дагэтуль яшчэ на сваіх пасяджэньнях і сходах не прапрацавалі рашэньні ЦК УсеКП(б) аб організацыі беднаты.

Што работа з беднатой у радзе месц яшчэ не перабудавана, што гэта работа вядзецца яшчэ па „старынцы", пацьвердзім шэрагам дадзеных, якія адзначаны самімі райкомамі партыі.

Вось што адзначае Пленум Калінкавіцкага РК КП(б)Б (студзень 1930 г.):

> „Ня гледзячы на значнае павялічэньне колькасьці праведзеных сходаў беднаты, апошнія яшчэ да гэтага часу носяць кампанейскі характар. Ячэйкі наогул мала звярочваюць увагі на прыцягненьне беднаты і батрацтва ў штодзённую працу па соцыялістычнай перабудове вёскі... З боку большасьці ячэек яшчэ да гэтага часу не ўясьнена політычная важнасьць работы груп беднаты і мэтоды яе правядзеньня. Праца груп беднаты ня ўвязваецца з задачай узмацненьня і ажыўленьня работы саветаў, коопэрацыі, камітэтаў узаемадапамогі і інш. Значная колькасьць груп існуе фармальна--на паперы".

Азарыцкі Райком КП(б)Б па дакладу Карнавіцкай партячэйкі, адзначае:

> „Улічваючы *выпадковае* правядзеньне работы сярод беднаты, нерэгулярнае правядзеньне пасяджэньняў груп беднаты, зрабіць рашучы пералом у бок рэгулярнай працы з беднатой".

Ня лепш абстаіць справа і ў іншых раёнах. Бяссыстэмнасьць, кампанейшчына ў рабоце з беднатой і дагэтуль яшчэ ня выжыта. Вельмі часта бывае і так, што сход беднаты склікаюць тады, калі тое ці іншае мерапрыемства не праходзіць на агульным сялянскім сходзе, тады толькі зварочваюцца да бядняцкага сходу.

Трэба адзначыць, што некаторыя партыйцы яўна недаацэньваюць работу з беднатой, яны, замест організацыі беднаты, выхаваньня яе, з мэтай адрыву яе ад шкоднага кулацкага ўплыву, *прадпачытаюць адміністраваць.*

Вось якую думку выказалі некаторыя партыйцы на пасяджэньні бюро Калінкавіцкага РК КП(б)Б па пытаньню аб раскулачваньні. „*Ня трэба ставіць гэтыя пытаньні на групах і сходах беднаты, ня трэба гэта абнародваць, бо гэтым мы некаторых адпугнем і дадзім магчымасьць кулаку лепш організавацца*".

У другім месцы адзін партыец выказаўся так: *„Бедната ідзе за кулаком, бедната падтрымлівае, абараняе кулака. Трэба да іх (да беднаты—трэба разумець) прымяняць адміністрацыйныя меры“.*

Кампанейшчына, агульныя разважаньні аб рабоце з беднатой і недастатковае прыцягненьне беднаты да канкрэтнага правядзеньня раду мерапрыёмстваў, дала сябе адчуваць у шэрагу месц.

Вось характэрны момант, які нядаўна выявіўся ў Тураўскім сельсавеце.

Местачковая Тураўская ячэйка дагэтуль недаацэньвала работу з беднатой і на беднату не апіралася пры правядзеньні мерапрыемстваў. У выніку гэтага ў падатковую камісію і ў камісію садзейнічаньня загатоўкам пралезьлі кулацкія элемэнты, якія зьвялі да нуля індывідуальнае абкладаньне (абкладзена было ў індывідуальным парадку ўсяго 8 гаспадарак) і хлебазагатоўкі. Пры правядзеньні суцэльнай колектывізацыі кулакі і царкоўнікі (пад кіраўніцтвам мясцовага папа), добра з'арганізаваўшыся і прыцягнуўшы на свой бок вялікую колькасьць сялян, асабліва сялянак, аказалі вялікае супраціўленьне гэтаму мераприемству. І толькі зараз, калі ячэйка організавала беднату, апошняя на-галаву разьбіла кулацкае супраціўленьне. Бедната выявіла яшчэ 13 гаспадарак, якія падлягаюць індывідуальнаму абкладаньню, значна павялічыла суму загатовак і паставіла на агульным сходзе беднаты пытаньне аб ізьяцьці царквы.

> „Трэба ўдарыць па царкве заявіла беднота.— гэтым самым і ўдарым па кулацтву, бо ў царкве зьбіраліся кулакі і царкоўнікі, там яны праводзілі свае сходы і адтуль яны пушчалі сваю шкодную агітацыю“.

У Петрыкаўскім раёне, пры абгаварэньні на сялянскіх сходах адозвы Пленуму Мазырскага АК КП(б)Б аб колектывізацыі, у пяці вёсках Горбаўскага сельсавету сяляне галасавалі супроць колектывізацыі. Высьветлілася, што ва ўсім сельсавеце няма ніводнага колектыву і нават Пленум с.-с. не жадаў прыняць пастановы аб колектывізацыі.

Да ўсяго гэтага прыходзіцца канстатаваць адсутнасьць чоткай клясавай лініі ў рабоце раду коопэрацыйных організацый і камітэтаў узаемадапамогі.

Вось што адзначае Пленум Калінкавіцкага РК КП(б)Б:

> „Пленум РК лічыць зусім недапусьцімым тое, што да гэтага часу не скарыстаны фонды ў суме 2720 р. Мазырскім і Калінкавіцкім сельхозамі на коопэраваньне беднаты, уступаючай у калгасы.
>
> ... Маюцца выпадкі скарыстаньня крэдытаў беднаты не па прызначэньню: выдача заможным, нават індывідуальна абкладзеным (Мазыр, Калінкавічы, Дамановічы)“.

Усе гэтыя праявы, зьяўляючыся правымі дзеяньнямі на практыцы, павінны атрымаць рашучае асуджэньне, рашучы адпор з боку парторганізацый.

Работа з беднатой і бацтрацтвам патрабуе рашучага пералому, каранной перабудовы. Кампанейшчына, выпадковасьць, нячоткасьць, адсутнасьць выразнай клясавай лініі ў гэтай працы, павінна быць з коранем вырвана з практыкі нашае работы.

Парткомы павінны стаць сапраўднымі цэнтрамі кіраўніцтва ўсёй справай організацыі беднаты і батрацтва.

Недаацэнка асаблівай важнасьці работы сярод батрацка-бядняцкіх мас, асабліва ў сувязі з магутным ростам калгаснага будаўніцтва, павінна атрымаць рашучы адпор з боку партыі, як адно з праяўленьняў правага опортунізму на практыцы.



Чухман.

# Вынікі камплектаваньня школ партсеткі і абхоп вучобай парторганізацыі.

У бягучым навучальным годзе абхоп вучобай парторганізацыі значна большы, чымся ў мінулым годзе. Растлумачальная работа абхапіла шырокія пласты рабочых мас: Даклады аб значэньні вучобы ў духу пастаноў ЦК УсеКП(б) стаялі на ўсіх сходах парт'ячэек. У значнай частцы прадпрыемстваў пытаньні вучобы стаялі таксама на сходах рабочых, праводзіліся гутаркі ў часе палудзеннага перапынку. Асобныя парт'ячэйкі аб ходзе работы па камплектаваньню на вучобу дакладвалі на Бюро Райкому. Праводзіліся нарады сакратароў і АПА парт'ячэек як у пачатку навучальнага году, так і ў працэсе правядзеньня ўсёй гэтай работы. Выпускаліся плякаты, спэцыяльная газэта, прысьвечаная вучобе. Адсюль мы маем значны абхоп вучобай ня толькі парторганізацый, але і рабочых прадпрыемстваў.

### Поўнага пералому не ўдалося дабіцца.

Усё-ж, ня гледзячы на шырокі размах растлумачальнай работы, не ўдалося дабіцца поўнага пералому ў разуменьні шырокіх мас палітычнага значэньня вучобы, разуменьня важнасьці рэволюцыйнай тэорыі. Вельмі часта прыходзілася сутыкацца з выпадкамі, калі добраахвотны прынцып вучобы ўспрымалі няправільна: „хачу—буду вучыцца, не захачу—ня буду".

Самае галоўнае гэта тое, што патрэбнага пералому не ўдалося дабіцца і сярод часткі актыву ячэек: і ў гэтым годзе маецца шмат фактаў, калі вярбоўка на вучобу праводзілася асобнымі таварышамі, апаорганізатарамі. Апошнія, ня маючы належнай дапамогі актыву, таксама ў шэрагу выпадкаў апускалі рукі. Адсюль вярбоўка ў асобных ячэйках ішла самацёкам, без дастатковага кіраўніцтва. Былі спробы ў асобных ячэйках няправільна вытлумачыць прынцып добраахвотнасьці: („партыйцам вучоба абавязкова, б-парт. добраахвотна". „Добраахвотнасьць толькі ў выбары форм вучобы"). Гэтыя спробы выходзілі ня толькі ад неразуменьня і нязнаньня пастаноў ЦК УсеКП(б),—вельмі часта такое тлумачэньне патрэбна было для палягчэньня сабе работы па вярбоўцы на вучобу: куды лягчэй завербаваць людзей у парадку абавязковасьці, чым хадзіць тлумачыць і пераконваць.

### Абхоп вучобай па партсетцы.

Вынікі камплектаваньня к пачатку навучальнага году маюць наступны выгляд:

| | Усяго слухачоў | Муж. | Жан. | Па соц. станов. | | | Па партыйн. | | | Па нацыянальнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Раб. | Служ. | Кр-н | КПБ | КСМ | б.-п. | Бел. | Яўр. | Рус. | Інш. |
| 1. ВПШ . . | 509<br>100% | 387<br>76% | 122<br>24% | 417<br>82% | 71<br>14% | 21<br>4% | 332<br>66% | 89<br>17% | 88<br>17% | 64<br>13% | 393<br>77% | 40<br>8% | 12<br>2% |
| 2. ЕПШ . . | 474<br>100% | 343<br>72% | 131<br>28% | 389<br>82% | 84<br>17,8% | 1<br>0,2% | 137<br>29% | 63<br>13,5% | 274<br>57,5% | 95<br>20% | 318<br>67% | 44<br>9% | 17<br>4% |

Па ЕПШ набраны вялікі процант беспартыйных рабочых (57,5 проц.), у той час, калі па ВПШ гэты процант даходзіць да 17. Гэта натуральна прымусіла пашырыць склад б-парт., асабліва па ЕПШ. Гэта значыць, што перад школай стаіць вялікая задача да канца году апрацаваць і завербаваць лепшых рабочых у партыю.

### Па і ншым відам партвучобы.

| | | |
|---|---|---|
| 3. Завочны нядзельны Камвуз | — 115 | чал. чл. і канд. партыі |
| 4. Завочная савпартшкола | — 60 | „ „ „ „ |
| 5. Курсы партактыву | — 21 | „ „ „ „ |
| 6. Марксысцка-ленінскія гурткі | — 40 | „ „ „ „ |

Усяго ахоплена членаў і кандыдатаў партыі па партсеці 705 чал., ці 35 проц. да парторганізацыі.

### Ахоп членаў і кандыдатаў партыі іншымі відамі вучобы.

| | | |
|---|---|---|
| 7. ЦВРШ | 210 | чал. |
| 8. Вяч. Рабфак | 43 | „ |
| 9. Вяч. Тэхнікум | 35 | „ |
| 10. Вяч. раб. Ун. | 43 | „ |
| 11. Курсы па падрыхтоўцы ў ВНУ | 70 | „ |
| 12. Вытворча-тэхнічн. курсы | 55 | „ |
| 13. Коопэрац. курсы | 11 | „ |
| 14. Школы малапісьменных і няпісьмен. | 80 | „ |

У іншых школах і гурткох (паліт., проф., антырэлігійных—пры профсаюзах, аддзеле працы, міліцыя) на сёньнешні дзень налічваецца каля 70 чал. членаў і кандыдатаў партыі. Гэта значыць, што іншымі відамі вучобы ахоплена 617 чал., ці 31 проц. да парторганізацыі.

Такім чынам, усяго ахоплена вучобай членаў і кандыдатаў партыі 1322 чал. ці 66 проц. у адносінах да ўсёй парторганізацыі.

Акрамя ўсяго гэтага, звыш 150 чал. ахоплены ўдарнымі брыгадамі па вывучэньню бел. мовы (сюды ўваходзіць частка т. т. завочнікаў ВУЗ'у і партшколы). Частка з гэтых брыгад таксама займаюцца палітвучобай, галоўным чынам, бягучай палітыкай.

Некаторая частка т. т., прыблізна каля 30 чал., займаюцца, галоўным чынам, па агульнаадукацыйных прадметах. Калі ўсё гэта ўлічыць, дык атрымаем, што арганізацыя ахоплена больш чым на 70 проц. вучобай. Лічбы гавораць адносна колькасна-здавальняючага ахопу вучобай парторганізацыі.

Для захаваньня гэтага процанту на ўвесь навучальны год патрэбна і ў далейшым весьці барацьбу з той косласьцю, якая яшчэ маецца ў часткі арганізацыі, калі вучобу лічаць другарадным пытаньнем; і рашуча пайсьці па лініі палепшаньня *сыстэмы нашай работы, зьмяншэньня пасяджэнчай суталкі, тым самым паменшыць нагрузку для значнай* часткі таварышоў, асабліва для актыву і прадставіць больш магчымасьці працаваць над сабой. Рашэньне ЦК УсеКП(б) „Аб сыстэме тэорэтычнай перападрыхтоўкі партыйнага і комсамольскага актыву“, бязумоўна, дало штуршок да таго, каб партактыў прызадумаўся над сваёй вучобай. Усё-ж мы і тут сустракаліся з вялікімі цяжкасьцямі, вельмі часта з большымі, чым пры вярбоўцы ў ніжэйшыя ступені партасьветы.

### Склад прапагандыстых.

Ня гледзячы на тое, што ў гэтым годзе пропагандыстымі мы былі больш забясьпечаны, чым у мінулым, аднак, у моц таго, што сетка школ і гурткоў значна пашырылася па ўсіх галінах і што некаторую частку неабходна было паслаць у вёску на работу, адчуваецца недахоп прапагандысцкіх сіл. Прыходзіцца вельмі нагружаць таварышоў, што, нарэшце, уплывае на якасьць выкладаньня. Склад пропагандыстых па ЕПШ складаецца ў большасьці сваёй з рабочых, якія прашлі перападрыхтоўку на пропагандысцкіх курсах. Большасьць выкладчыкаў па ЕПШ якасна задавальняе — гэта выкладчыкі дняўной саўпартшколы.

### Некаторыя вывады.

Практыка першых месяцаў вучобы паказвае, што маецца рад буйных прабелаў у пастаноўцы работы ў школах. Галоўнае—гэта недастатковая ўвязка вучобы ў школе з грамадзкай работай і практыкай на вытворчасьці; барацьбе партыі з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго, а таксама і з левымі заскокамі хоць і зьвяртаецца значная ўвага, але ўсё-ж гэтыя пытаньні яшчэ не зьяўляюцца цэнтрам ва ўсёй вучобе ў школах: яшчэ не ўдалося дабіцца безадмоўнага выкананьня дырэктыў Акругкому і Райкому аб тым, каб не праводзіць сходаў і пасяджэньняў у дні вучобы. Гэта пастанова часта парушаецца ня толькі зьнізу, але і зьверху і ў выніку гэта ўплывае на наведваемасьць у школах. Першы месяц процант наведваемасьці даходзіў да 20—25 проц. Апошні час гэты процант зьнізіўся да 15—17 па ВПШ і 18—20 па ЕПШ, што таксама ня можа нас задаволіць. Вось галоўныя моманты, якія трэба ўлічыць у далейшай рабоце школ.

(Горраён, Гомель .

# ХРОНІКА ПАРТРАБОТЫ.

## У аргінструктарскім аддзеле ЦК.

Арганізацыйны аддзел ЦК КП(б)Б 17 студзеня правёў нараду па пытаньню аб рэарганізацыі апарату партарганізацый, дзе была заслухана інфармацыя тав. Гантмана аб выніках нарады пры ЦК УсеКП(б). Нарада вылучыла камісію ў складзе 5 асоб, якім даручана прапрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы і ў тыднёвы тэрмін прадставіць на зацьверджаньне ЦК.

* * *

ЦК КП(б)Б паслаў усім АК і РК КП(б)Б дырэктыўны ліст аб загатоўцы мясцовага насеньня, дзе падкрэсьліваецца, што загатоўкі мясцовага насеньня ідуць надзвычайна слаба, і вызначаныя плянам с.-г. пасеўнай кампаніі на 1930 г. заданьні на мясцох стаяць амаль пад пагрозай зрыву. У зьвязку з гэтым АК і РК КП(б)Б павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб усе вызначаныя заданьні былі сваячасова выкананы.

Прапанована ўсім АК КП(б)Б тэрмінова праверыць работу ўсіх загатоўчых арганізацый, прыняўшы рашучыя захады па ўзмацненьню ходу загатовак, вызначыць канкрэтныя заданьні для кожнай загатоўчай арганізацыі, для кожнага раёну, усклаўшы пэрсанальную адказнасьць на кіраўнікоў загатоўчых і раённых арганізацый, за сваячасовае і поўнае выкананьне заданьняў, прыцягваючы да адказнасьці асоб за бязьдзейнасьць у справе загатовак насеньня.

Дырэктыўны ліст зварочвае ўвагу АК і РК КП(б)Б, каб правадзімая праца па рэарганізацыі сельска-гаспадарчай каапэрацыі ні ў якім разе не адбілася на загатоўках насеньня і падрыхтоўцы да вясеньняй пасяўной кампаніі.

Прапанована праводзіць шырокую растлумачальную працу, за неабходнасьць абавязковага і сваячасовага выкананьня плянаў загатоўкі мясцовага насеньня, вядучы рашучую барацьбу з кулацкай агітацыяй і процідзеяньнем кулацтва загатоўкам насеньня. Пляны загатовак у першую чаргу павінны быць даведзены да кулацкіх гаспадарак, патрабуючы іх сваячасовага выкананьня.

* * *

ЦК КП(б)Б даў канкрэтныя паказаньні мясцовым партыйным арганізацыям па пытаньню аб распаўсюджваньні ў вёсцы трактарных абавязацельстваў і аб зборы авансаў на трактары.

ЦК абавязаў усе партыйныя, савецкія і каапэрацыйныя арганізацыі зараз-жа разгарнуць працу па распаўсюджваньню ў вёсцы трактарных абавязацельстваў і збору авансаў на трактары.

Мінімальная сума рэалізацыі трактарных абавязацельстваў па БССР устаноўлена ў 2 мільёны рублёў.

Арыентыровачна гэта сума разьмяркована па акругах наступным парадкам: Менск—300 000 руб., Гомель—300.000, руб., Магілеў—300.000, рублёў, Бабруйск—300 000 руб., Віцебск- 250.000 рублёў, Ворша—225.000 руб., Полацак—200.000 рублёў і Мазыр—175.000 рублёў.

ЦК пастанавіў арганізаваць цэнтральную камісію па садзейнічаньню распаўсюджваньня трактарных абавязацельстваў у складзе: т. т. Рачыцкага (старшыня), Міцькова, Сьміснова, Ластоўскага, Дубіны і Вайтэнкава.

Даручана СНК прапрацаваць пытаньне аб колькасьці і месцы арганізацыі машынна-трактарных станцый, з тым, каб у наступным годзе мець ня менш як па аднэй машынна-трактарнай станцыі ў акрузе.

## Работа сярод работніц саўгасаў.

*Аршанская акруга.*

На падставе матар'ялаў агляду 9-ці саўгасаў, АК адзначыў некаторае палепшаньне масавай работы сярод работніц саўгасаў, палепшаньне ўцягненьня работніц у правядзеньне палітычна-гаспадарчых кампаній і часткавае палепшаньне культурна-бытавога абслугоўваньня. Дэлегацкімі сходамі ахоплена 37 работніц (з 63-х), у розных грамадзкіх арганізацыях састаяць 48 работніц, ахоплена гурткамі шыцьця і кройкі 29 работніц. У абгледжаных саўгасах існавала 5 ясьляў і 1 пляцоўка.

Але адначасова АК прызнаў слабай работу па падняцьцю культурна-палітычнага ўзроўню работніц саўгасаў. Няпісьменнасьць ліквідавана толькі сярод 8 з 50 няпісьменных работніц. Нездавальняючай прызнана работа па ўцягненьню работніц саўгасаў ў партыю і КСМ (з 63 работніц за ўвесь час ў партыю прынята 5 і ў КСМ—6). Зусім слабы ўдзел работніц у рабоце вытворчых нарад і работніцы слаба высоўваюцца на кіруючую работу.

З другіх адмоўных зьявішч адзначана: атрыманьне работніцамі ніжэйшай зарплаты пры выкананьні аднэй і тэй-жа работы аднолькавай з мужчынамі-рабочымі; звальненьне ў першую чаргу работніц пры скарачэньні штатаў; няпрыняцьце мер па падвышэньню кваліфікацыі работніц-саўгасьніц.

# Перавыбары К. С. Т. У.

*Віцебская акруга.*

АК адзначыў нездавальняючы ход перавыбарчае кампаніі КСТУ. Да гэтага часу (21-XII) недастаткова мабілізавана вакол перавыбараў грамадзкая думка рабочых (асабліва рабочых на прадпрыёмствах, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях), батрацтва беднаты, а таксама калгасьнікаў, камсамолу і дэлегацкіх жаночых сходаў; раённыя выбарчыя камісіі працуюць слаба, адсутнічае належнае кіраўніцтва сельскімі выбарчымі камісіямі, яны большасьцю бязьдзейнічаюць. АК таксама адзначыў, што не заўсёды праведзены рэвізіі працы камітэтаў, ня складзены наказы, у некаторых с/с, асабліва. дзе няма парт. ячэйкі, ня прыступлена да намячэньня і абгаварэньня кандыдатур у новы склад КСТУ. АК тлумачыць такое нездавальняючае становішча ходу кампаніі недастатковай увагай з боку парт. арганізацый да перавыбараў.

АК рашыў камандыраваць у раёны ня менш як на 2 тыдні групу адказных акруговых работнікаў.

*Полацкая акруга.*

У Вушацкім раёне перавыбары КСТУ пачаліся з 3-га сьнежня. На 24/XII пераабрана 13 КСУ і ўноў арганізавана самастойных таварыстваў 5. Па дадзеных ад 5 КСУ яўка на перавыбарчыя сходы ў сярэднім складае 43,7%, жанчын 27%. Яўка сельупаўнаважаных 85%. З абраных 181 упаўнаважаных плоцяць с.-г. падатак—49, з 74 абраных у склад КСУ і рэвкамісіі плоцяць с.-г. падатак—21. У аднэй з вёсак Плінскага с/с кулацтва правяло патайны сход, куды быў запрошаны і бядняк для абгаварэньня кандыдатур, высунутых парт. ячэйкай і сходам беднаты. У мястэчковым камітэце Узаемадапамогі з складу 823 членаў вычышчана 123 асобы—14%.

# Абслугоўваньне батрацтва.

*Гомельская акруга.*

АК адзначыў, што з боку Акрінспэктуры Аховы працы за час з 1/X-28 г. па 1/X-29 г. маецца некаторы зрух у справе абслугоўваньня батракоў: ахоплена ўмовамі — 6580, у мінулым годзе—5400, застрахавана—4489, у мінулым г. 880, зроблена абсьледваньняў у паасобных гаспадарках—212, у тым ліку 109 кулацкіх гаспадарак, у мінулым годзе 89 і 9 кулацкіх прыцягнута да судовай адказнасьці, за парушэньне працоўнага законадаўства—21, у адміністрацыйным парадку—45.

Рост заробчай платы ў сярэднім на 13,3% батракоў. на 13,7% пастухоў, падпаскаў на 33%, у кулацкіх гаспадарках зарплата батракоў узрасла на 44%.

Разам з гэтым АК адзначыў наступныя недахопы: адсутнічае сталы вучот батракоў і батрачак, а таксама кулацкіх гаспадарак, у якіх прымяняецца наём рабочай сілы. РВК і сельсаветы па эканамічна-прававой ахове батрацтва амаль што ніякай работы не праводзяць, рэгістрацыя дагавароў праходзіць фармальна, прым. камеры ў значнай большасьці не працуюць. Пракуратура слаба правярае выкананьне законадаўства аб ахове працы батракоў і батрачак, а таксама не правярае і не інструктуе работу прым. камер (праведзен 1 абгляд за 3 гады пракуратурай, які працягваўся 15—20 хвілін). З боку РК КП(б)Б і КСМ, а таксама і ячэек работа з батрацтвам праводзіцца слаба.

АК прапанаваў: тэрмінова прыняць меры да ўстанаўленьня поўнага вучоту кулацкіх гаспадарак па акрузе, у якіх прымяняецца наёмная сіла; Акрпракуратуры зрабіць агляд становішча работы прым. камер пры РВК і сельсаветах і праверыць ступень выкананьня законаў па ахове працы батрацтва.

Крэдытаваньня кулацкіх гаспадарак і асоб, ня зьвязаных з с.-г. (Клясьніцкае, Вароніцкае, Расіцкае, Сяляўшчынскае, Луначарскае, Валынецкае, Кубліцкае і Полацкае Т-вы), няпоўнае скарыстаньне фондаў крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты, выпадкі крэдытаваньня за кошт яго серадняцкіх гаспадарак.

Крэдытаваньне праводзілася без папярэдняга вывучэньня крэдытуемых гаспадарак. Да 4% крэдытаў скарыстана не па прызначэньню. Сродкі на індустрыялізацыю няпоўнасьцю скарыстоўваліся. дзякуючы несваячасовай падрыхтаванасьці будаўнічых арганізацый і мала зьвернута ўвагі на індустрыялізацыю калгасаў. Вельмі малае крэдытаваньне тэхнічных культур.

# Праца з беднатой і батрацтвам.

*Магілеўская акруга.*

Фармальна (Прапойскі раён) на вучоце ў РК лічыцца 11 груп беднаты, але большасьць з іх не працуюць, дзякуючы таму, што РК не даваў практычных нарад аб працы сярод бядняцка - батрацкіх груп.

У тых мясцох, дзе групы час-ад-часу зьбіраліся, на іх прысутнічала 30 - 40% беднаты. Разглядаліся пытаньні кампанейскага характару, сталай працы ня было. Такія пытаньні як калектывізацыя і скарыстаньне крэдытаваньня зусім не прапрацоўваліся. Адсюль—дрэнныя настроі сярод беднаты. („Вы нас зьбіраеце толькі тады, калі трэба правесьці самаабкладаньне, хлебанарыхтоўкі і інш.").

Праца з батрацтвам пастаўлена з рук вон. За ўвесь год РК не разглядаў ніводнага пытаньня аб працы сярод батрацтва. У калдагаворнай кампаніі партыйныя часткі ня бралі ўдзелу. У выніку ахоплена дагаварамі 431 батрак (патрэбна было 500).

Дырэктывы партыі аб павялічэньні зарплаты батракам у серадняцкіх гаспадарках на 10%, у заможна-кулацкіх на 20% ня выкананы.

Сельбатрачком працуе кепска.

# Становішча самакрытыкі.

*Гомельская акруга.*

На прадпрыемствах Рэчыцкага раёну маецца даволі значная колькасьць нядаўна прыбылых маладых рабочых з вёсак, якія не пазбавіліся шкодных і адсталых настрояў (антысэмітызм, непралетарскія адносіны да вытворчасьці, рвацтва).

На гэтую акалічнасьць партарганізацыі не зьвяртаюць асаблівай увагі, а як вынік—паніжэньне сабекошту, паляпшэньне якасьці прадукцыі нездавальняючае.

Камісія прыйшла да вываду, што самакрытыка ў партарганізацыі і сярод рабочых разгорнута слаба.

З бюро парткалектыву „Днепр" заўважаліся моманты глушэньня самакрытыкі.

Кіраўніцтва рабкораўскай работай пастаўлена слаба, не разьбіраліся асобныя заявы рабочых аб шкодніцтве і заціску самакрытыкі.

Старшыня фабкому называў трацкісцкім выступленьне камуністага, які патрабаваў разгляду заметкі аб былым сакратару парткалектыву на шырокім сходзе партыйцаў.

Дырэктар фабрыкі ня выконваў рэальных прапаноў рабочых і фармальна адказваў на крытыку рабочых.

Былы сакратар ячэйкі Лесазаводу ім. Томскага скрыўляў партлінію ў справе кіраўніцтва рабкораўскай працай, не рабіў захадаў супроць асобных камуністых, якія цкавалі рабкораў, а часам і сам заціскаў самакрытыку.

Рэдактар насьценгазэты лесазаводу дапушчаў цкаваньне рабкораў, і газэта, замест таго, каб быць вострай зброяй супроць усяго шкоднага і нездаровага на ф-цы, стала сродкам зьвядзеньня асабістых разрахункаў і калатні.

# Пытаньні оргпартработы.

*Бабруйская акруга.*

АК забараніў Гаркому выклікаць у Гарком прымаемых у партыю рабочых, абмежаваўшыся выкліканьнем (для разгляду спраў прыёму) толькі ў тых выпадках, калі па справе прыёму ў партыю рабочага ад варштату маюцца непаразуменьні.

* * *

На лесакамбінаце, які перайшоў на бесьперапынную работу, як АК адзначыў, да гэтага часу яшчэ партмасавая работа не прыстасавана да належнага абслугоўваньня рабочых у новых умовах, не прыстасавалі сваю работу да абслугоўваньня рабочых камбінату прафэсыйныя, савецкія і кааперацыйныя арганізацыі. АК таксама адзначыў, што гэтай справе ня ўдзелена належная ўвага з боку усіх арганізацый, у тым ліку і Гаркома КП(б)Б.

* * *

АК даручыў Аргаддзелу распрацаваць пытаньне аб арганізацыйнай перабудове партработы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі—стварэньне кустовых калектываў і г. д.

# Пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

*Гомельская акруга.*

АК распрацаваў мерапрыемствы па суцэльнай калектывізацыі Лоеўскага і Хомецкага раёнаў. Для дапамогі раённым арганізацыям не пазьней 16-XII вызначана паслаць на кожны сельсавет па аднаму адказнаму працаўніку—камуністага з акруговых і гарадзкіх раённых арганізацый на тэрмін ня менш 2-х месяцаў. Даручана наладзіць масавую пэрыядычную пасылку ў гэтыя раёны працаўнікоў па лініі шэфства і ўдарных рабочых брыгад.

Даручана не пазьней 1/I-30 г. укамплектаваць гэтыя раёны спэцыялістымі, а менавіта: па 6 аграномаў, па 2 тэхнікі-будаўнікі, па 2 культуртэхнікі і гідра-тэхнікі, па 2 спэцыял. па жывёлагадоўлі, па 1 спэцыял. па садоўніцтву і агародніцтву і па 10—15 землямупарадкацеляў на кожны раён.

АК вызначыў з вясны будучага году прыступіць да арганізацыі і пабудовы ў гэтых раёнах: 5 масласыразаводаў, 15 цагельных заводаў, 5 заводаў па перапрацоўкі сыравіны, 11 майстэрань па рамонту с.-г. інвэнтару, 2 майстэрні па рамонту складаных машын, 13 сталых супроцьпажарных пунктаў і 5 племсьвінарнікаў.

Даручана арганізаваць у кожным з гэтых раёнаў па 5 калгасаў сьвінагадоўчага напрамку з вырошчваньнем сьвіней на бэкон у колькасьці 15—20 тыс. штук у год.

Даручана накіраваць значную частку атрымоўваемых для акругі аўтамашын.

Пытаньне аб сродках вытворчасьці для гэтых раёнаў вызначана так: для гэтых раёнаў патрэбна будзе 300 трактараў, у першы год АК вызначыў завесьці ў гэтыя раёны 35 трактараў. Даручана разгарнуць работу па загатоўцы зьверх пляну двугародніх відаў сыравіны для імпорту трактароў. Даручана забясьпечыць усе калгасы гэтых раёнаў з плошчай 300 га пахаці належнай колькасьцю складаных машын.

Даручана зараз-жа праверыць склад усіх існуючых калгасаў у мэтах рашучага ачышчэньня іх ад кулацкіх і варожых элемэнтаў.

# Беларусізацыя.

## *Гомельская акруга.*

АК адзначыў, што агульны тэмп беларусізацыі ў акрузе зьяўляецца слабым і значна адстае ад агульнага тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва, таму АК пастанавіў правесьці па ўсёй акрузе праверку становішча беларусізацыі пад лёзунгам: „Кожны камуністы, камсамолец, кожны актыўны пралетары павінен аўладзець беларускай мовай, каб яшчэ больш замацаваць пад кіраўніцтвам КП(б)Б кіруючую ролю пралетарыяту да асноўных мас сялянства“.

Праверку АК вызначыў правесьці наступным чынам: бюро ячэек вылучаюць брыгаду, якая высьвятляе становішча беларусізацыі па лініі ячэек ЛКСМБ, профарганізацый і апарату; на пасяджэньні бюро парт'ячэйкі заслухаць даклады брыгад з іх прапазыцыямі; з 20/XII па 20/I склікаць адчынены сход парт. ячэек як па пытаньням аб чарговых задачах у галіне правядзеньня беларусізацыі і барацьбы з беларускім нацыянал-дэмакратызмам і прапановы па пытаньню аб узмацненьні тэмпу беларусізацыі: ячэйкам КП(б)Б і ЛКСМБ, профорганам, савецкім, коопэрацыйным, гандлёвым установам не пазьней 15/II цалкам перавесьці ўсю масавую работу на беларускую мову; з 1-I па 15/II правесьці генэральную праверку ведаў беларускай мовы супрацоўнікамі ўсіх устаноў; у студзені праверыць становішча беларусізацыі навучальных устаноў.

## *Аршанская акруга.*

Пленум АК адзначыў, што маюцца значныя дасягненьні ў галіне беларусізацыі па лініі партыйнай, комсамольскай арганізацый, культурных устаноў, савецкага і прафэсыянальнага апарату. У той-жа час у паасобных савецкіх апаратах, прафэсыянальных установах, гаспадарча-гандлёвых прадпрыемствах акругі маюць месца адмоўныя зьявішчы, якія характарызуюць іншы раз зьніжэньне тэмпу беларусізацыі, фармальныя адносіны і г. д.

Адмоўныя зьявішчы выражаюцца ў наступным: парадная форма беларусізацыі, якая выяўляецца ва ўжываньні беларускае мовы ў справаводзтве, складаньні папер, перапісцы, у шыльдах, у той-жа час, як на ўсіх службовых гутарках, на пасяджэньнях, прыёму наведвальнікаў ужываецца расейская мова, што назіраецца ў большасьці ў нашых савецкіх і прафэсыянальных установах і ў некаторых партыйных і КСМ арганізацыях.

Слабае ўнядрэньне беларускае мовы ў гаспадарчых установах акругі (фабрыкі, заводы, каапэрацыі, асабліва па лініі гандлёвых устаноў), пры наліччы асобных выпадкаў поўнага ігнараваньня белмовы (чыгунка, Дубравенская мануфактура, Копыскі завод);

Нежаданьне ўжываць белмову асобнымі групамі інтэлігенцыі, што асабліва праяўляецца па лініі інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі і асобнымі настаўнікамі;

Упартае нежаданьне беларусізацыі з боку часткі сярэдняга і старэйшага мэдыцынскага пэрсаналу.

Зусім дрэнна стаіць праца беларусізацыі на чыгунцы, як сярод партарганізацыі, адміністрацыйнага і вышэйшага тэхнічнага пэрсаналу, гэтак і сярод рабочых і служачых, яшчэ горш, што сярод вышэйшага тэхнічнага пэрсаналу маюцца варожыя адносіны да беларусізацыі і беларускае мовы.

Слабы стан беларусізацыі ўстаноў, якія ў большасьці абслугоўваюць беларускае сялянства (лясьніцтвы, бальніцы, каапэрацыя), як вынік недаацэнкі палітычнай важнасьці беларусізацыі.

Нізкая якасьць белмовы ўва ўсіх нашых установах, яшчэ фармальныя павярхоўныя адносіны да белмовы з боку значнае часткі культурных работнікаў, асабліва на чыгунцы.

Незнаёмства значнай часткі партарганізацыі, камсамолу і асноўных мас пралетарыяту і працоўнага сялянства з беларускай літаратурай.

Слаба накіраваны апарат ў некаторых савецкіх і каапэрацыйных установах (Талачынскі, Чарэйскі РВК, Аршанскі ЦРК, установы чыгункі, Пошты, Адмаддзел).

Невялікі процант рабочых на Дубравенскай фабрыцы—беларусоў, а на чыгунцы і на заводзе „Чырвоны Кастрычнік“—яўрэі.

АК адзначыў слабую працу Акрнацкамісіі і канстатаваў, што наогул мала зроблена партыйнымі арганізацыямі, камсамолам, прафсаюзамі і нацкамісіяй у справе папулярызацыі нацпалітыкі партыі і савецкае ўлады сярод рабочых і служачых акругі і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Недастаткова разгорнуты палітасьветныя ўстановы, якія абслугоўваюць працоўных нацменшасьцяй, асабліва працоўнае яўрэйскае насельніцтва, недапасаванасьць працы нардамоў да яго патрэб, зусім слабае разгортваньне масавай культасьветнай працы сярод яўрэйскага і польскага працоўнага насельніцтва, асабліва сярод калгасаў, недастковы лік працаўнікоў па культмасаваму абслугоўваньню нацменьшасьцяй, у выніку чаго і пры наліччы ўплыву клерыкальных і шавіністычных элемэнтаў недастаткова шпарка зьнішчаюцца нацыянальныя антаганізмы і нацыяналістычныя настроі, асабліва сярод яўрэйскага і польскага насельніцтва.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

## ШТО ЧЫТАЦЬ АКТЫВІСТУ.

**И. СТАЛІН: Сборник статей к пятидесятилетию со дня рож ения.** Государственное Издательство. Москва. 1929 г. Тираж 300000 экз. 270 страниц. Цена 30 коп.

**И. СТАЛІН: О правом уклоне в ВКП(б).** Из речи на пленуме ЦК ВКП(б) в апреле 1929 г. Государственное Издательство. Москва. 1930 г. Тираж 300000 экз. 95 страниц. Цена 7 к.

**И. СТАЛІН: Год великого перелома.** К двенадцатой годовщине октября. Гос. Издательство. Москва. 1929 г. Тираж 500000 экз. 15 страниц. Цена 3 коп.

**И. СТАЛИН: К вопросам аграрной политики в СССР.** Речь на конференции аграрников-марксистов 27 декабря 1929 г. Государственное издательство. 1930 г. Тираж 300000 экз. 31 страница. Цена 5 коп.

**В. МОЛОТОВ: О колхозном движении.** Речь на ноябрьском пленуме ЦК ВКП(б), с некоторыми сокращениями. Государственное издательство. 1930 г. Москва. 32 страницы. Цена 5 коп.

**В. МОЛОТОВ: Лицом к колхозному движению.** Доклад на партсовещании при ЦК ВКП(б) 13 января 1930 г. Государственное издательство. 1930 г. Тираж 1000000 экз 15 страниц. Цена 3 к.

Мы раім кожнаму актывісту ня толькі прачытаць гэтыя кніжкі т. т. Сталіна і Молатава, але і популярызаваць іх у шырокіх масах рабочых, беднаты і серадняцтва.

У апошні пэрыяд пролетарыят, пад кіраўніцтвам ленінскае партыі, пасьпяхова разгортвае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Задача выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў краіне вырашаецца на справе. Наперакор усім „нытикам и маловерам", усім прароцтвам „левых" і правых ухілістых, соцыялістычнае будаўніцтва на аснове генэральнае лініі партыі, ня гледзячы на цяжкасьці, пераходзіць ад аднэй перамогі да другой.

Правыя опозыцыянэры прапанавалі тэорыю „мірнага ўрастаньня кулака ў соцыялізм". Правыя даводзілі ўсёй партыі, што наша сельская гаспадарка перажывае „дэградацыю" і г. д. Цяпер кожнаму вядома, што гэтыя „навуковыя тэорыі" правых ідэолёгаў цалкам разьбіты жыцьцём. Ня „мірыцца" з кулаком, а весьці з ім рашучую барацьбу, не „ўрастаць разам з кулаком у соцыялізм", а зьнішчаць яго як клясу, што і робіцца ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, ня ўцягваць яго ў „сыстэму соцыялістычнай коопэрацыі", а не дапушчаць у калгасы, ачышчаць калгасы ад кулацтва ў тых мясцох, дзе яно пралезла ў іх—вось правільная клясавая лінія, якая забясьпечвае соцыялістычнае будаўніцтва, якая накіравана супроць клясава-варожых элемэнтаў.

Мы зьяўляемся сьведкамі і актыўнымі ўдзельнікамі масавай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У калгасы пайшлі ня толькі батракі і беднякі, але і серадзякі. А гэта факт вялічэзнага значэньня. У бліжэйшыя годы пры цяперашніх тэмпах калгаснага будаўніцтва мы падарвем „базу для росту капіталізму" і будземісьці поўным ходам па шляху зьнішчэньня кляс і стварэньня бясклясавага вобчаства. Толькі на аснове ленінскай лініі нашай партыі магчыма пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва. Толькі рашуча змагаючыся з правым ухілам у тэорыі і на практыцы, толькі даючы жорсткі адпор рэцыдывам троцкізму, партыя можа ўзмацняць адзінства сваіх шэрагаў, пасьпяхова змагацца за пасіленыя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, весьці політыку зьнішчэньня кулацтва як клясы, разгортваць калгаснае і саўгаснае будаўніцтва, арганізоўваць шырокія пласты працоўных навакол баявых задач партыі і савецкае ўлады.

Усе брашуры, якія намі разглядаюцца, т. т. Сталіна і Молатава прысьвечаны жыцьцёвым сучасным задачам партыі, ад вырашэньня якіх залежаць далейшыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва.

Першая кніжка займае асобнае месца. Яна прысьвечана пяцідзесяцігодзьдзю са дня нараджэньня тав. Сталіна. У сваім артыкуле аб т. Сталіну тав. Калінін зусім правільна кажа, што „Па сутнасьці, калі гаварыць аб т. Сталіну, значыцца гаварыць аб важнейшых падзеях у гісторыі нашае партыі", бо ўсё сьвядомае жыцьцё т. Сталіна было цесна зьвязана з гісторыяй нашай партыі, з гісторыяй рэволюцыйнай барацьбы рабочае клясы. Тав. Сталін належыць да старой бальшавіцкай гвардыі, якая працавала ў падпольлі, рыхтавала Кастрычнікавы пераварот і кіравала ўсім далейшым разьвіцьцём партыі бальшавікоў. Бліжэйшы і найбольш пасьлядоўны вучань Леніна, т. Сталін заўсёды няпрымірыма змагаўся за чыстату марксыцка-ленінскай тэорыі, за пролетарскую стратэгію і тактыку ў клясавай барацьбе. Ролю т. Сталіна ў нашай партыі ў момант грамадзянскай вайны красамоўна акрэсьлівае т. Калінін. Ён кажа: „Між іншым, Сталін заўсёды накіроўваўся ня проста на фронт, але на той фронт, які ў даны гістарычны момант быў важнейшым. І ў політбюро пры Леніну неяк само сабою разумелася: небясьпека вялікая—значыць, трэба паслаць Сталіна".

Вельмі цікавы артыкул т. Варашылава—„Сталін і Чырвоная армія". У гэтым артыкуле ў поўнай меры выяўляецца роля тав. Сталіна ў організацыі і кіраўніцтве перамогамі Чырвонай арміі над ворагамі пролетарскае дыктатуры. Прачытаўшы гэты артыкул, кожны працоўны атрымае поўнае прад-

стаўленьне аб сапраўдным організатару перамог Чырвонай арміі на царыцынскім, уральскім, петраградзкім і южным франтох. Цяпер, пасьля цікавага артыкулу т. Варашылава выяўляецца сапраўдная роля т. Сталіна, які, па даручэньню партыі, організоўваў і кіраваў перамогамі Чырвонай арміі ў барацьбе супроць белагвардзейскай контр-рэволюцыі. Артыкул т. Варашылава зьмяшчае надта цікавыя дакуманты, дапісы і тэлеграмы, якія пасылаліся Леніным Сталіну. Маецца шмат вытрымак з дапісаў т. Сталіна Леніну аб становішчы на франтох грамадзянскай вайны.

Тав. Сталін зьяўляецца ня толькі організатарам, практыкам, ня толькі правадыром працоўных мас, але і буйнейшым, найбольш пасьлядоўным і ортодоксальным тэорэтыкам ленінізму. Самыя лепшыя тэорытычныя работы па ленінізму належаць т. Сталіну.

Гэтую кніжку аб лепшым вучню Леніна трэба ведаць кожнаму партыйцу і працоўнаму.

У сваёй прамове на канфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых т. Сталін абгрунтаваў паварот у эканамічнай політыцы нашай партыі.

Раней партыя не магла зрабіць павароту ў адносінах да кулака, стаць на шлях зьнішчэньня яго як клясы, таму што ня былі створаны належныя ўмовы для такой політыкі. „Ці маглі мы,—пытае т. Сталін,—год цяць, ці гады тры назад прадпрыняць такое наступленьне на кулацтва? Ці маглі мы тады разьлічваць на посьпех такога наступленьня? Не, не маглі. Гэта было-б небясьпечнейшым авантурызмам. Гэта было-б небясьпечнейшай гульнёй у наступленьне. „Ибо мы наверняка сорвались-бы на этом и, сорвавшись, укрепили-бы позиции кулачества. Почему? Потому, что у нас не было еще тех опорных пунктов в деревне, в виде широкой сети совхозов и колхозов, на которых можно было-бы базироваться в решительном наступлении против кулачества. Потому, что мы не имели тогда возможности *заменить* капиталистическое производство кулака социалистическим производством в виде колхозов и совхозов“.

А цяпер у нас ужо маюцца ўсе даныя для замены кулацкай гаспадаркі—гаспадаркай буйнай, соцыялістычнай. Політыка зьнішчэньня кулацтва як клясы ўжо ажыцьцяўляецца на справе ў раёнах суцэльнай калектывізацыі. У другіх-жа мясцох, дзе суцэльная калектывізацыя не праводзіцца, дзейнічае політыка выціснаньня і абмежаваньня капіталістычных, кулацкіх элемэнтаў.

У сваёй прамове т. Сталін падвяргае жорсткай крытыцы буржуазныя тэорыі ў галіне аграрнай політыцы (тэорыя „роўнавагі“, тэорыя „самацёка“ ў сацыялістычным будаўніцтве, тэорыя „ўстойлівасьці“ дробна-сялянскае гаспадаркі, „тэорыя“ ножніц, *якая* сьцьвярджае, што ў Лютым сялянства больш атрымала, чым у Кастрычніку і г. д.). Тав. Сталін, у адказ на выступленьні некаторых таварышоў, якія ня лічаць калгасы сацыялістычным тыпам гаспадаркі, гаворыць, што „калгасы, як тып гаспадаркі ёсьць адна з форм соцыялістычнае гаспадаркі. У гэтым ня можа быць ніякага сумленьня“. І груба памыляюцца тыя, хто ня згаджаецца лічыць калгасы аднэй з форм соцыялістычнае гаспадаркі.

У брашуры „Аб правым ухіле ва ЎсеКП(б)“ т. Сталін дае падрабязны аналіз разнагалосьсям паміж партыяй і праваўхілісцкай групай т. Бухарына. Цяпер пытаньне стаіць так: хаця правадыры правых капітулявалі перад партыяй, прызналі свае погляды памылковымі, але пытаньне барацьбы з правай практыкай і ідэолёгіяй застаецца ў парадку дню партыйнай работы. Чаму? Таму, што ўмовы для ўзьнікненьня, для разьвіцьця, для праяўленьня правай ідэолёгіі і практыкі яшчэ ня зьнішчаны. Яны захоўваюцца ў экономіцы нашай краіны. Вось чаму глыбока памыляецца той, хто кажа, што з прызнаньнем правымі сваіх памылак, здымаецца з парадку дню барацьба з правай небясьпекай.

Прамова т. Сталіна дае грунтоўныя адказы на ўсе галоўныя пытаньні і разнагалосьсі з правымі ўхілістымі, адводзячы належнае месца „тэорыі і практыцы“ правых. Прачытаўшы гэтую прамову, можна зразумець гістарычную сутнасьць перамогі партыі над права-ўхілісцкімі элемэнтамі партыі.

Брашура зьмяшчае зусім новы матар'ял аб т. Бухарыну, як тэорэтыку. Гэты матар'ял да моманту выхаду прамовы т. Сталіна быў невядомы. Тав. Бухарын рабіў памылкі ня толькі па пытаньнях стратэгіі і тактыкі нашае партыі, калі ён абараняў пляцформу правых і быў ідэолёгам. Ён з даўніх пор рабіў і тэорэтычныя памылкі, якія сьведчаць аб тым, што „т. Бухарин теоретик, но теоретик не вполне марксистский, теоретик, которому надо еще доучиваться для того, чтобы стать вполне марксистским теоретиком“—кажа тав. Сталін.

Вось што казаў аб т. Бухарыну, як тэорэтыку, т. Ленін:

> *„Из молодых членов ЦК хочу сказать несколько слов о Бухарине и Пятакове. Это, помоему, самые выдающиеся силы (из самых молодых сил) и относительно их надо-бы иметь в виду следующее: Бухарин не только ценнейший и крупнейший теоретик партии, он также законно считается любимцем всей партии, но его теоретические воззрения очень с большим сомнением могут быть отнесены к вполне марксистским, ибо в нем есть нечто схоластическое, он никогда не учился и, думаю, никогда не понимал вполне диалектики“.*

„Итак—кажа т. Сталін—*теоретик без диалектики, теоретик—схоластик. Теоретик, чьи „теоретические воззрения с очень большим сомнением могут быть отнесены к вполне марксистским. Такова характеристика теоретической физиономии т. Бухарина, даная Лениным“.*

Брашура т. Молатава „Аб калгасным руху“ зьяўляецца прамовай аўтара на лістападаўскім пленуме ЦК УсеКП(б), з некаторымі скарачэньнямі. У ёй тав. Молатаў паставіў некалькі чоткіх, баявых задач у рабоце партыі па кіраўніцтву і разгортваньню калгаснага руху. Наша задача зараз заключаецца ў тым, каб іськці ў галаве шпаркага калгаснага руху, каб організоўваць шырокія пласты батрацтва, беднаты і серадняцтва ў напрамку разьвіцьця калгасаў. Усім малаверам, усім, хто баіцца дасягнутых тэмпаў калгаснага будаўніцтва, партыя павінна даваць рашучы адпор.

Тав. Молатаў высоўвае некалькі практычных задач, зьвязаных з палепшаньнем унутранага жыцьця

ў калгасах. Бо ад таго, як мы зможам арганізаваць работу (труд), вытворчасьць у калгасах, залежаць і далейшыя посьпехі ўсяго калгаснага руху. Між тым, як сур'ёзнага падыходу да гэтай справы ў нашых кіруючых цэнтрах калгаснага руху, на жаль, да гэтае пары амаль што ня было"—кажа т. Молатаў. І далей:

> *„Ня толькі калгасы, ня толькі коопэрацыя і ня толькі зямельныя органы, роля якіх (земорганаў) павінна быць ва ўсім калгасным руху значна пасілена, але ўся партыя павінна пасілена працаваць над пытаньнямі організацыі працы, г. зн. організацыі вытворчасьці ў калгасах. Мы павінны пажадаць, каб дзевяць дзесятых увагі нашых вясковых організацый было прысьвечана гэтаму пытаньню".*

Далей т. Молатаў разглядае шэраг пытаньняў, ад правільнага разьвязваньня якіх залежыць разьвіцьцё калгаснага руху (аб кадрах для калгаснага будаўніцтва, аб аграмаджаных фондах і г. д.).

Другая кніжка т. Молатава „Тварам да калгаснага руху" рубам ставіць пытаньне аб перабудове работы саветаў пад лёзунгам „тварам да калгасаў". У цяперашніх умовах „мы павінны дабіцца крутога павароту ў рабоце саветаў у вёсцы. Мы павінны павярнуць саветы тварам да калгаснага руху. Рычагом гэтага павароту павінны служыць *перавыбары саветаў*.

Там, дзе саветы стаяць у староне ад калгаснага руху, трэба паставіць пытаньне аб новых выбарах у саветы. Там, дзе саветы не працуюць над згуртаваньнем батрацтва і беднаты, там ня можа быць забясьпечаны моцны саюз з серадняком для ажыцьцяўленьня політыкі ліквідацыі кулацтва, і там таксама неабходна рубам паставіць пытаньне аб перавыбарах саветаў. Саветы, няздольныя весьці рашучае барацьбы з кулацтвам, мы ня можам прызнаць такімі саветамі, якія здолеюць са справай кіраўніцтва колектывізацыяй вёскі" — кажа т. Молатаў.

Усе памянёныя кніжкі т. т. Сталіна і Молатава павінны быць пільна прапрацаваны кожным комуністым, яны павінны быць прасунуты да рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства.

**А. Г.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб наборы ва ВТУЗ-ы ў лік „2000“.

1. Згодна пастановы ЦК УсеКП(б) склад камандыруемых ва ВТУЗ-ы таварышоў павінен здавальняць наступным умовам: у ліку камандыруемых павінна быць ня менш 75—80 проц. рабочых. Камандыруемыя рабочыя павінны мець ня менш пяці год вытворчага стажу і 3—4 гады грамадзкай работы, а служачыя ня менш 6—7 год адказнай партыйнай, савецкай, профэсыйнай альбо гаспадарчай работы.

Узрост камандыруемых ня больш 35 гадоў.

Камандыруемыя павінны мець альбо скончаную сярэднюю адукацыю ў аб‘ёме рабфаку, дзевяцігодкі, альбо прайсьці падрыхтоўчыя курсы ці завочную падрыхтоўку па матэматыцы, фізыцы і расійскай мове ў тым-жа аб‘ёме.

2. Адзначыць па парторганізацыях наступную разьвёрстку камандыруемых ва ВТУЗ-ы ў ліку „2000“:

| | | |
|---|---|---|
| Менск | 15 | (з іх ня менш 3 жанчых) |
| Віцебск | 11 | „ „ „ 2 „ |
| Гомель | 10 | „ „ „ 2 „ |
| Бабруйск | 7 | „ „ „ 1 „ |
| Магілеў | 6 | „ „ „ 1 „ |
| Ворша | 5 | „ „ „ 1 „ |
| Полацак | 3 | |
| Мазыр | 3 | |
| Усяго | 60 | (з іх ня менш 10 жанчын) |

3. Камісіі ЦК КП(б)Б па камплектаваньню ВТУЗ-аў з паказаных вышэй 60 таварышоў адабраць 40 (з іх ня менш 5 жанчын), якія павінны быць накіраваны на зацьверджаньне цэнтральнай камісіі пры ЦК УсеКП(б).

4. Даручыць АК КП(б)Б: а) стварыць спэцыяльныя камісіі па адбору ў лік „2000“ у складзе прадстаўнікоў АПА АК, АСПС і акрінспэктара па народнай асьвеце; б) скончыць адбор кандыдатаў у лік „2000“ згодна ўстаноўленай у пункце 1 разьвёрсткі да 23/І з тым, каб не пазьней 25/І усе матар‘ялы па камплектаваньню былі накіраваны ў АПАД ЦК КП(б)Б.

5. АПАД ЦК і камісіі ЦК па камплектаваньні ВТУЗ-аў усю працу па адбору ў лік „2000“ скончыць да 5 ліпеня 1930 г.

6. Даручыць Акругкомам КП(б)Б арганізаваць праз органы НКАсьветы не пазьней, чым да 15-II сыстэматычную падрыхтоўчую вучобу таварышоў, зацьверджаных ЦК КП(б)Б для пасылкі ў лік „2000“ шляхам стварэньня спэцыяльных вячэрніх курсаў (калі ў акруговым цэнтры маецца дастатковы лік камандыраваных ва ВТУЗ-ы) альбо шляхам арганізацыі асобных груп пры ўжо існуючых курсах. Для асобных таварышоў, якія ня могуць па якім-небудзь прычынам (знаходжаньне ў раёнах і г. д.) пастўпіць для падрыхтоўкі на курсы, арганізаваць альбо індывідуальную вучобу з настаўнікамі, альбо завочнае праходжаньне падрыхтоўкі. У сувязі з гэтым:

а) АК стварыць максымальна спрыяючыя ўмовы для папярэдняй падрыхтоўкі камандыруемых у лік „2 00“ у прыватнасьці шляхам аслабаненьня іх на час падрыхтоўкі ад усякай грамадзкай і партыйнай нагрузкі.

б) НКАсьветы вылучыць неабходныя для арганізацыі паказанай вучобы сродкі.

в) АПАД ЦК да канца лістападу праверыць выкананьне месцамі і НКАсьветы дырэктыў па арганізацыі папярэдняй падрыхтоўкі накіраваных у лік „2000“.

7. Для мала падрыхтаваных таварышоў, зацьверджаных цэнтральнай камісіяй пры ЦК УсеКП(б) адчыніць у г. Менску з 1-IV—3-хмесячныя падрыхтоўчыя курсы з поўным аслабаненьнем курсантаў ад работы і з захаваньнем за імі зарплаты за кошт устаноў і прадпрыемстваў па месцы працы.

Сродкі на ўтрыманьне курсантаў вылучыць НКАсьветы.

## Аб росьце партколективу Віцебскай панчошнай фабрыкі імя Клары Цэткін.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б).*

Заслухаўшы даклад сакратара партколективу Віцебскай панчошнай фабрыкі, т. Зайцавай аб выніках росту партколективу за 1929 г. і аб становішчы работы па вярбоўцы рабочых і работніц у партыю, Сакратарыят ЦК прызнае рост партколективу НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧЫМ.

а) Адсутнічае сыстэматычная, штодзённая работа па вярбоўцы рабочых у партыю, рост носіць кампанейскі характар (з 25 ч. прынятых у гэтым годзе, 15 ч. прыпадае на кастрычнік мес.).

б) Тэмп росту колективу зьяўляецца недастатковым, з прычыны слабай пастаноўкі культурна-маса-

вай работы, якая да гэтага часу належным чынам не разгорнута і не прыстасавана да ўмоў працы і быту работніц фабрыкі.

в) Налічча выпадкаў, калі асобныя комуністыя пляліся ў хвасьце адсталіх настрояў часткі работніц, таксама ня спрыяла ўзмацненьню аўтарытэту колектыву і адмоўна адбілася на яго росьце за лік рабочых і работніц.

г) Партколектыў і цэхавыя ячэйкі недастаткова ахапілі працай асноўныя кадры работніц, беспартыйны актыў і не прыстасавалі формы і зьмест масавай работы да абслугоўваньня як старых кадраў, так і новых рабочых і работніц фабрыкі.

д) Невыстарчальны рост за лік комсамольскага рабочага актыву, што тлумачыцца слабай работай комсамолу ў напрамку выяўленьня і падрыхтоўкі да перадачы ў партыю лепшых комсамольцаў, а таксама і нездавальняючым кіраўніцтвам гэтай работай з боку партколектыву.

е) Недастаткова асьвятляюцца пытаньні росту ў фабрычнай шматтыражнай газэце.

ж) Адсутнічае належная ўвага партактыву, бюро зьменных ячэяк і фракцыі фабкому да пытаньняў штодзённай работы па вярбоўцы рабочых у партыю.

Работа партколектыву праходзіла ва ўмовах шпаркага росту фабрыкі і папаўненьня рабочага складу новымі, упяршыню прышоўшымі на вытворчасьць рабочымі (з 1 студзеня па 15 лістапада 1929 г. было прынята 785 новых рабочых і работніц з агульнай колькасьці рабочых на фабрыцы 1200 ч.), што абавязвае партколектыў ужыць усе захады да значнага ўзмацненьня ўсёй партработы на фабрыцы і асабліва работы па вярбоўцы ў партыю лепшых рабочых і работніц, актыўных удзельнікаў соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарных брыгад, больш прыкладных на вытворчасьці і з больш доўгім вытворчым стажам.

Сакратарыят ЦК прапануе партколектыву зьнішчыць адзначаныя вышэй недахопы, самым рашучым чынам змагацца з праявамі хвасьцізму асобных партыйцаў, якія падтрымліваюць адсталыя рва, часкія настрої часткі новых рабочых і работніц, растлумачваючы ўсёй масе рабочых шкоднасьць дробна-буржуазных рвачаскіх настрояў, абапіраючыся ў гэтай рабоце на асноўныя кадры рабочых фабрыкі, растлумачваць нацполітыку партыі, пасілюўшы беларусізацыю сярод шырокіх колаў рабочых.

У галіне практычных мерапрыёмстваў па ўзмацненьню тэмпу вярбоўкі рабочых і работніц у партыю Сакратарыят ЦК прапануе:

1) Канчаткова аформіць у месячны тэрмін організацыйную структуру партколектыву ў зьвязку з пераходам прадпрыемства на зьменную работу, забясьпечыўшы ў складзе бюро зьменных ячэек падбор лепшых, працаздольных комуністых і пасілюўшы кіраўніцтва іх работай. Аднэй з галоўнейшых задач работы зьменных ячэек лічыць вярбоўку рабочых у партыю. Організаваць інстытут групавых організатараў, вылучыўшы на гэтую працу найбольш аўтарытэтных таварышоў, усклаўшы на іх адну з галоўнейшых работ—па вярбоўцы і падрыхтоўцы рабочых у партыю, сыстэматычна заслухоўваючы даклады аб праводзімай імі рабоце.

2) Прыняць захады да ўзмацненьня культ-масавай работы шляхам разгортваньня яе непасрэдна ў цэху, зьмены і прыстасаваньня зьместу да ўзроўню рабочых і работніц. У цэнтры ўвагі культмасавай работы паставіць растлумачэньне пяцігодкі, соцыялістычнага наступленьня і неабходнасьці рашучай барацьбы з дробна-буржуазнымі рвачаскімі настроямі сярод часткі новых рабочых, нядаўна прышоўшых на соцыялістычную фабрыку, згуртоўваючы ўсіх рабочых навокал выкананьня вытворчай праграмы прадпрыемства, і разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва, разьвіцьця работы ўдарных брыгад, цэхаў і г. д.

3) Забясьпечыць уцягваньне ўсіх работніц у актыўную работу па ўзьняцьці вытворчасьці і ў культурна-масавую работу шляхам палепшаньня культурна-бытавых умоў работніцы (пашырэньне дзіцячых ясьляў і пляцовак, організацыі буфэту на фабрыцы, прыстасаваньня працы коопэратыву да ўмоў работніц, прадастаўленьне памяшканьня для культмасавай работы і г. д.).

4) Уцягваць работніц у політшколу, пашырыць практыку ўтварэньня спэцыяльных гурткоў з перадавых лепшых рабочых і работніц па вывучэньню статуту, праграмы і сучасных задач партыі ў галіне соц. будаўніцтва.

5) Сыстэматычна па цэхам праводзіць гутаркі з старымі кадрамі работніц, з актыўнымі ўдзельнікамі соцспаборніцтва, ударнікамі і г. д. аб росьце партыі, аб палепшаньні вытворчасьці і інш. асноўных мерапрыемствах партыі і ўлады.

6) Разгарнуць і палепшыць работу з беспартыйным актывам шляхам прыцягненьня яго на адчыненыя сходы, уцягненьня ў практычную працу грамадзкіх організацый і розныя (непартыйныя) камісіі і актыўную работу проформганізацыі.

7) Фракцыям выбарчых органаў, асабліва фабкому, прыняць неабходныя захады да палепшаньня работы па падрыхтоўцы рабочых-актывістых гэтых органаў да ўступленьня іх у партыю.

8) Фабрычнай шматтыражнай газэце сыстэматычна асьвятляць становішча росту і работы па падрыхтоўцы рабочых і работніц у партыю.

9) Палепшыць кіраўніцтва колектывам КСМ і наладзіць працу з комсамольскім актывам з мэтай больш шпаркага ўцягненьня лепшых комсамольцаў у партыю.

10) Пэрыядычна падводзіць на бюро колектыву і агульных сходах вынікі росту партыі, завострываючы гэтае пытаньне перад усімі партыйцамі.

11) Завесьці сталы вучот рабочых і асабліва актыву па групам, улічваючы якасны склад іх.

12) Улічваючы, што дэлегацкія сходы зьяўляюцца адным з асноўных зьвеньняў масавай працы сярод работніц і па падрыхтоўцы іх у партыю, колектыву зьвярнуць належную ўвагу на працу дэлегацкіх сходаў і забясьпечыць парт. кіраўніцтвам.

13) Ва ўсёй рабоце партколектыву абапірацца на асноўныя кадры работніц, уцягваючы іх у актыўную работу ўсіх грамадзкіх організацый прадпрыемства і праводзячы праз іх пролетарскі ўплыў на новых работніц.

# Аб мерапрыемствах па ажыцьцяўленьні пастаноў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 20-І 1930 г.).*

1. Правесьці ў жыцьцё ва ўсіх сярэдніх і вышэйшых профэсыйных навучальных установах прынцып адзінага кіраўніцтва, замяніўшы выбарнасьць кіраўніцтва ў вышэйшых навучальных установах адпаведным прызначэньнем з 15-І-30 г.

2. Утварыць пры вышэйшых і сярэдніх навучальных установах дарадчыя органы-саветы з прадстаўнікоў профсаюзаў, гаспадарчых органаў, профэсуры і выкладчыкаў, студэнцтва і рабочых з вытворчасьці.

3. Наркамасьветы перапрацаваць у 2-хмесячны тэрмін навучальныя пляны і праграмы ўсіх профтэхнічных навучальных устаноў, паклаўшы ў аснову гэтай перапрацоўкі: а) павялічэньне фактычнага працягу навучальнага году да 10 месяцаў; б) павялічэньне тэрміну вытворчай практыкі студэнтаў, каб суадносіны паміж практыкай і тэорыяй былі ня менш як 4:5; в) скарачэньне тэрміну навучаньня ў вышэйшых навучальных установах да 3—4 год, у тэхнікумах да 3 год; г) наданьне больш вузкай спэцыялізацыі навучальным установам з тым, каб гэтая спэцыялізацыя пачыналася, як правіла з 1-га і ніякім чынам не пазьней, як з 2-га курсу.

4. Даручыць НКАсьветы распрацаваць пытаньне аб рэорганізацыі рабфаку па прынцыпу спэцыялізацыі і мэтавага іх прызначэньня.

5. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне эфэктыўнасьці навучальнай працы студэнцтва проф. навучальных устаноў шляхам: а) падняцьця сярод студэнцтва і выкладчыкаў працоўнай дысцыпліны; б) ліквідацыі перагрузкі студэнтаў па-за школьнай працай; в) зьнішчэньня другагодніцтва і адсеву; г) больш шырокім ужываньнем актыўных мэтадаў працы.

6. Адмяніць з бягучага навучальнага году дыплёмныя працы студэнтаў, а таксама адмяніць і прадстаўленьне дыплёмных прац за ранейшыя гады.

7. У мэтах палепшаньня ідэолёгічнага напрамку працы, лічыць неабходным, каб усе дысцыпліны грамадазнаўчага характару выкладаліся марксыстымі-партыйцамі, імкнуцца, каб і іншыя дысцыпліны, якія ўтвараюць сьветапогляд студэнтаў (прыродазнаўчыя, пэдагогічныя), таксама выкладаліся марксыстымі.

8. З мэтай хутчэйшай падрыхтоўкі неабходных спэцыялістых НКА улічыць неабходнасьць у тых установах, дзе гэта будзе магчыма, рабіць прыём два разы ў год, пры бесьперапынным навучальным годзе, у прыватнасьці с.-г. Акадэміі, хэміка-тэхналёгічным факультэце, сел.-гасп. і індустрыяльныя тэхнікумы.

9. Паскорыць перапрацоўку 5-гадовага пляну падрыхтоўкі кадраў спэцыялістых, уключыўшы ў гэты плян і падрыхтоўку асьпірантаў.

10. Даручыць НКАсьветы ў адпаведнасьці з гэтай пастановай распрацаваць належныя практычныя мерапрыемствы.

# Аб прапрацоўцы рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 20-І—30 г.).*

1. Прапрацоўка рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б пад пунктам погляду мобілізацыі ўвагі ўсёй парторганізацыі на правядзеньне вясеньняй пасяўной кампаніі і колектывізацыі вёскі, рашучай ліквідацыі кулацтва як клясы, узмацненьня работы з вясковай беднатой і ўзмацненьня органаў дыктатуры пролетарыяту ў вёсцы—сельскіх саветаў.

Пытаньне колектывізацыі ўвязаць з пытаньнем індустрыялізацыі БССР і проблемай рашучага вылучэньня пролетарскіх кадраў.

Ад гэтага часова павінна быць мобілізавана ўвага ўсёй парторганізацыі па пытаньню матар'яльна-культурнага абслугоўваньня пролетарыяту, неабходнасьці карэнных палепшаньняў абслугоўваньня і адпаведнай пастаноўкі работы ўсіх організацый, у першую чаргу профсаюзных, коопэрацыйных і г. д.

Завастрыць увагу на пытаньнях парткіраўніцтва комсамолу, узмацненьне рабочага і батрацкага асяродку ў комсамоле і падняцьце клясавай баядздольнасьці комсамолу.

Усе гэтыя пытаньні павінны быць праведзены пад кутком погляду рашучай барацьбы з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі, барацьбы з правым ухілам як ў тэорыі, так і на практыцы, як найбольш небясьпечным на даным этапе.

а) Прапрацаваць на сходах ячэяк усе пытаньні пленуму, зьвязваючы абгаварэньне гэтых пытаньняў з канкрэтнымі мерапрыемствамі сваіх умоў па тым ці іншым рашэньням пленуму.

б) Паставіць на рабочых сходах, сходах батракоў і калгасьнікаў спэцыяльныя даклады аб бліжэйшых задачах у сувязі з рашэньнямі студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

в) Па ўсёй партсетцы распрацаваць пытаньні:

1. Аб пасеўкампаніі і колектывізацыі, увязаўшы гэтае пытаньне з мерапрыемствамі па ліквідацыі кулацтва як клясы.

2. Пытаньне аб кадрах (там, дзе прапрацована пытаньне аб кадрах, правесьці гутарку без самастойнай прапрацоўкі).

3. Прапрацаваць пытаньне аб рабоце з комсамолам і парткіраўніцтва комсамолам.

4. Правесьці гутарку аб матар'яльна-культурным абслугоўваньні рабочых (акрамя сельскіх ячэек).

# ТЭЗІСЫ

## да сьвяткаваньня Міжнароднага Камуністычнага Дню 8 сакавіка.

1. Міжнародны Камуністычны Дзень 8 сакавіка—Дзень Міжнароднай салідарнасьці працоўных жанчын усяго сьвету, дзень агляду рэвалюцыйных сіл пралетарак у барацьбе за сусьветную пралетарскую рэволюцыю, за пераможнае будаўніцтва социялізму ў краіне саветаў, за выкарчоўваньне карэньняў капіталізму і канчатковае зьнішчэньне капіталістычных элемэнтаў у СССР.

8 сакавіка ў гэтым годзе—годзе вялікага пералому мы праводзім у абставінах вялізарнейшых зрухаў як унутры нашае краіны ў справе нябачанага размаху социялістычнага будаўніцтва, вялікага творчага ўздыму шырачайшых працоўных мас, так і па-за межамі ў справе нарастаньня клясавых боек пролетарыяту з буржуазіяй і абвастрэньня барацьбы працоўных мас калёній супроць капіталістычнага рабства.

2. У той час, калі краіна саветаў шпаркімі крокамі ідзе наперад па шляху пабудовы социялізму, усё больш разрастаецца развал капіталістычнае сыстэмы. Аб гэтым яскрава сьведчыць экономічны крызіс у Амэрыцы, гэтай дасюль квітнеючай капіталістычнай краіне, крызіс, пачынаючы захопліваць і інш. капіталістычныя краіны (Нямеччына, Польшча, Англія і інш.). Аб гэтым яскрава сьведчыць нябачаны ўзрост беспрацоўя, які дасягнуў у капіталістычных краінах цудоўнай лічбы—20 мільёнаў, што (лічачы і сем'і) пакідаюць на голад і фізычнае выраджэньне 80-100 мільёнаў чалавек. Апрача разгортваючагася гаспадарчага крызісу, вялікі ўплыў на рост беспрацоўя аказала капіталістычная рацыяналізацыя, якая выкідвае на вуліцу сотні тысяч і мільёнаў рабочых і работніц, адначасова павялічваючы да нячуваных памераў эксплёатацыю тых, якія застаюцца ў вытворчасьці рабочых, паніжаючы і без таго галодную зарплату, павялічваючы рабочы дзень (пры скарачэньні яго—няпоўны рабочы тыдзень—у ахопленых крызісам галінах прамысловасьці), падымаючы інтэнсыўнасьць працы і г. д. У выніку рэзка ўзрасьлі для пролетарыяту жабрацтва і капіталістычны прыгнёт, асабліва часта адбіваючыся на становішчы работніц, якія зьяўляюцца менш арганізаваным і найбольш эксплёатуемым атрадам рабочае клясы.

3. Прогрэсіруючы развал гнілой капіталістычнай стабілізацыі, абвастрэньне гаспадарчага крызісу, цяжкасьці для працоўных капіталістычнае рацыяналізацыі, вялізарны рост беспрацоўя, моцна рэвалюцыянізуючы ўплыў пераможнага социялістычнага будаўніцтва ў СССР, беззаветная рэвалюцыйная барацьба брацкіх кампартый—усё гэта выклікае вялізарны ўздым рабочага руху на Захадзе, які ўсё больш і больш пераходзіць да вышэйшых форм клясавай барацьбы. Ад экономічных стачак пролетарыят пераходзіць да палітычных забастовак, вулічных дэмонстрацый, да ўзброеных сутычак з капіталізмам. Рабочыя і работніцы выходзяць на вуліцу, каб змагацца ўжо не з паасобнымі капіталістымі, а з капіталістычнаю дзяржаваю за савецкую социялістычную рэспубліку. Кожны новы дзень прыносіць зьвесткі аб такіх дэмонстрацыях, забастоўках і ўзброеных сутычках у Нямеччыне, Польшчы, Італіі і інш. краінах.

Дзень 6 сакавіка абвешчаны Камуністычным Інтэрнацыяналам днём сумеснай барацьбы рабочых і беспрацоўных супроць беспрацоўя.

6 і 8 сакавіка рабочыя і работніцы капіталістычных краін сумесна з працоўнымі Савецкага Саюзу будуць дэманстраваць супроць эксплёатацыі і надняволеньня жанчыны-пролетаркі капіталам, за падвышэньне заробчай платы, за 8-мігадзінны рабочы дзень супроць беспрацоўя, за адзіны рэвалюцыйны фронт беспрацоўных і рабочых з вытворчасьці.

4. На базе ўздыму рабочага руху растуць сілы Камуністычнага Інтэрнацыяналу, усё новыя арміі рабочых і работніц, якія ўпэўніліся ў здрадніцтве соцыял-фашыстых, пераходзяць пад сьцяг Камуністычных партый. Пашыраецца рэвалюцыйны рух працоўных, прыгнечаных у калёніях (Індыя, Кітай і інш.).

На працягу доўгіх гадоў соцыял-дэмократыя буржуазных краін стрымлівала рэвалюцыйны рух пролетарыяту. Зараз яна, выконваючы клясавы загад буржуазіі, са зброяй у руках падаўляе рэвалюцыйны рух унутры краіны і ў калёніях. Бязьлітасная барацьба з соцыял-фашыстымі за масы, галоўнейшая задача ў сучасны момант.

5. 6 і 8 сакавіка работніцы і ўсе працоўныя жанчыны разам з усімі працоўнымі будуць дэманстраваць супроць падрыхтоўкі да новых імпэрыялістычных боек і да нападу на Савецкі Саюз, за абарону СССР—бацькаўшчыну рабочых і прыгнечаных нацый усяго сьвету.

Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе выклікаюць шалёную кампанію—хлусьні на краіну саветаў з боку імпэрыялістых і іх служак соцыял-фашыстых, што зьяўляецца паказчыкам падрыхтоўкі да нападу на СССР. Канфлікт на КУ чыгунцы зьяўляецца сыгналізуючай перасьцярогай для працоўных усяго сьвету. Усё гэта патрабуе асаблівай пільнасьці працоўных жанчын па пытаньнях абароны краіны.

Масамі ўцягнем працоўных жанчын у рады АСОАВІЯХІМУ.

Працоўныя жанчыны павінны ўзмацніць сваю вайсковую падрыхтоўку, навучаючыся ў розных вайсковых гурткох.

6. Работніцы і сялянкі сумесна з усімі працоўнымі савецкае краіны павінны заўсёды памятаць тыя вялікія задачы, якія стаяць перад імі ў барацьбе міжнароднага пролетарыяту за комунізм.

Вялікая адказнасьць ляжыць на працоўных першае ў сьвеце краіны пролетарскае дыктатуры, бо яна зьяўляецца першым атрадам сусьветнай пролетарскай рэвалюцыі. Свае пролетарскія абавязкі работніцы і працоўныя сялянкі Савецкага Саюзу цалкам выконваюць, актыўна змагаючыся за ажыцьцяўленьне пяцігодкі, за шпаркі тэмп індустрыялізацыі і колектывізацыі краіны, выкарчоўваючы з карэньнямі рэшткі капіталізму ў краіне, за ліквідацыю кулацтва як клясы.

7. Першы год выкананьня пяцігодкі яскрава сьведчыць, што пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі мы зможам выканаць у чатыры гады. На гэтай галоўнай задачы павінна быць згрупавана ўвага шырокіх мас работніц, батрачак, калгасьніц, бядняцка-серадняцкіх жанчын вёскі.

Дзень 8 сакавіка павінен накіраваць энэргію і волю работніц на пасьпяховае выкананьне промфінпляну шляхам шырокае самакрытыкі, павёўшы рашучую барацьбу супроць страт у вытворчасьці, прагулаў, за палепшаньне якасьці продукцыі, зьніжэньня сабекошту, узьняцьцё кваліфікацыі работніц. 8 сакавіка работніцы з усёю сілаю возьмуцца за арганізацыю ўдарных брыгад, за пагалоўнае ўцягненьне ўсіх работніц у соцыялістычнае спаборніцтва. Пашырыць утварэньне новых ударных цэхаў, заводаў, фабрык—наш лёзунг 8 сакавіка. Праз падняцьце вытворчасьці работніцы мы садзейнічаем хутчэйшай колектывізацыі вёскі. Вопыт арганізаванага пролетарыяту ў вытворчасьці, работніцы ўдзельнічаючыя ў колектывізацыі перанясуць у справу соцыялістычнае перабудовы вёскі.

8. На грунце разьвіцьця індустрыялізацыі шпарка разгарнуўся калгасны рух на вёсцы, які ахапіў асноўныя бядняцка-серадняцкія масы сялянства. Мы маем усе падставы для таго, каб правесьці колектывізацыю Беларусі ў карацейшы тэрмін. Калгасны рух адбіваецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Разьвіцьцё народнае гаспадаркі, суцэльная колектывізацыя склалі ўмовы для таго, каб кулацкую вытворчасьць на вёсцы ня толькі замяніць, а ў некалькі разоў перакрыць вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў.

Ад палітыкі абмежаваньня кулака партыя перашла да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі.

Раскулачваньне кулака на падставе суцэльнай колектывізацыі, згуртаваньне батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства для рашучай ліквідацыі кулацтва як клясы зьяўляецца асноўнай нашай задачай. На гэта мы павінны зараз мабі-

лізаваць усю актыўнасьць працоўных жанчын вёскі. Перадавая частка працоўных жанчын, дэлегаткі, калгасьніцы, батрачкі і жаночы актыў павінен даць рашучы адпор усякім спробам кулацтва агіднай хлусьнёй скарыстаць няпісьменнасьць і несьвядомасьць адсталае часткі бяднячак і сераднячак у мэтах перашкоды колектывізацыі. Лепшай адзнакай 8 сакавіка будзе масавае ўступленьне батрачак і бядняцка-серадняцкіх мас жанчын у калгасы.

9) Пасьпяховае правядзеньне пасеўнае кампаніі, масавая організацыя новых калгасаў—наш лёзунг 8 сакавіка на вёсцы.

Увага працоўных жанчын павінна быць накіравана на поўнае правядзеньне мерапрыемстваў на абагульненьне насеньня, стварэньне і ачыстку насеньня. Калгасьніцы павінны яскрава ўявіць свае задачы ў справе замацаваньня і ўзьняцьця гаспадаркі калгасаў шляхам поўнага абагуленьня ў першую чаргу рабочай і буйнай прадукцыйнай жывёлы і сродкаў вытворчасьці, уступленьня ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак са ўсёю маемасьцю.

Зараз адным з галоўных пытаньняў калгаснага будаўніцтва зьяўляецца арганізацыя вытворчасьці і падвышэньня таварнасьці калгасаў,—правільная арганізацыя працы ў калгасах. У гэтай справе вялікую ролю займае жанчына-калгасьніца, ад якой у значнай меры залежыць разьвіцьцё і падвышэньне якасьці продукцыі ў цэлым радзе галін калгаснай гаспадаркі. Таму правільная арганізацыя працы, у прыватнасьці жаночай, у калгасах павінна стаць у цэнтры ўвагі.

8 сакавіка павінен зрабіць зрух у справе *арганізацыі жаночае працы* ў вытворчасьці калгасаў, што дапаможа пераходу на вышэйшую ступень гаспадаркі калгасаў.

8 сакавіка павінен стаць пачаткам разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва па ўдзелу калгасьніц і працоўных сялянак у арганізацыі калгасаў, пасеўнае кампаніі, падвышэньня вытворчасьці калгаснае гаспадаркі.

10) Суцэльная колектывізацыя і зьвязанае з гэтым ажыцьцяўленьне політыкі зьнішчэньня кулака як клясы, патрабуе ўзмацненьня саветаў як органаў пролетарскае дыктатуры, замацаваньня ў іх батрацка-бядняцкага ядра і ачысткі саветаў ад кулацкіх і інш. варожых элемэнтаў. Гэта патрабуе актыўнага ўдзелу батрачак, бядняцка-серадняцкіх мас жанчын у перавыбарах і ў практычнай рабоце груп беднаты пры саветах і інш. арганізацыях на вёсцы (калгасы, коопэрацыі, КСУ). Патрэбна да веснавой сяўбы ўцягнуць у калгасы ўсіх батрачак.

11) Значна ўзрасла актыўнасьць, клясавая сьвядомасьць і ўдзел жанчын у савецкім і гаспадарчым будаўніцтве і ў грамадзкім жыцьці. Аб гэтым сьведчыць рост жанчын у вытворчасьці і на кіруючай рабоце. У прамысловасьці мы маем за гэты год рост ліку работніц і (па цэнзавой прамысловасьці) з 34 проц. да 40 проц. да ўсяе рабочае сілы. Жанчын у розных выбарчых арганізацыях мы маем: у саветах—9.304, у коопэрацыі—11.839, у кіруючых органах калгасаў—522, у прафсаюзах—9.939.

Вылучана на кіруючую адказную работу: старшынямі сельсаветаў і местачковых саветаў—122 жанчыны, старшынямі і намесьнікамі РВК—5, на платную прафэсыйную работу—105, дырэктарамі і намесьнікамі дырэктароў фабрык—6 чалавек.

Бурны рост народнае гаспадаркі патрабуе значнае падрыхтоўкі кіруючых кадраў, спэцыялістых і кваліфікаваных рабочых да прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Політыка партыі накіравана на тое, каб павялічыць кадр спэцыялістых з рабочых і работніц, батрачак, калгасьніц, для папаўненьня кадраў і замены тых спэцыялістых, якія перашкаджаюць пасьпяховаму выкананьню пяцігодкі.

У розных навучальных установах жанчын навучаецца: у ВУЗах—915 ч., рабфаках—285, тэхнікумах—2284, профшколах—1249, фабзавучах—155. Але-ж гэта яшчэ недастаткова. Таму Цэнтральны Камітэт КП(б)Б вынес спэцыяльнае рашэньне аб падрыхтоўцы кадраў і ў прыватнасьці аб палепшаньні работы па ўзьняцьцю кваліфікацыі работніц і пасылцы іх на вучобу. Гэта магчыма выканаць толькі тады, калі маса працоўных жанчын уразумеюць важнасьць падняцьця сваёй кваліфікацыі і агульнай

пісьменнасьці. Для хутчэйшай падрыхтоўкі рабочых, работніц, батрачак і калгасьніц да вылучэньня зараз створаны шэраг курсаў (курсы вылучэнцаў, калгасьнікаў, коопэрацыйных, профэсыйных і інш.).

12. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва неразрыўна зьвязаны з узьняцьцем матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас. Стварэньне вытворчых камун рабочых і работніц на прадпрыемствах, колектывізацыя сельскае гаспадаркі стварае ўмовы для хутчэйшай перабудовы быту на колектыўных пачатках. Усё павялічваючыйся ўдзел працоўных жанчын у прамысловасьці і вытворчасьці саўгасаў і колгасаў патрабуе хутчэйшага разьнявольваньня працоўнае жанчыны ад яе непрадукцыйнай працы ў індывідуальна-хатняй гаспадарцы і пабудову бытавых установаў на грамадзкіх пачатках.

З году ў год дзяржава павялічвае сродкі на ахову мацярынства і младзенства і дашкольнае выхаваньне. У 1929—1930 г. на гэтую справу адпушчана каля 950.000 руб.. ясьляў, пляцовак і дзіцячых садоў будзе у 1930 г.—1095. Грамадзкімі установамі (коопэрац., жакты і інш.) адпушчана 900.000 р., пляцовак, ясьляў і дзіцячых садоў грамадзкімі арганізацыямі будзе арганізована 698 (лічбы няпоўныя).

Ня гледзячы на паступовы рост бытавых установаў, колькасьць іх не задавальняе нашых запатрабаваньняў. 8 сакавіка актыўнасьць работніц, жонак рабочых, і калгасьніц трэба мабілізаваць на адшуканьне грамадзкіх сродкаў, прафсаюзаў, жактаў, каапэрацыі, калгасаў і самога насельніцтва для стварэньня ясьляў, дзіцячых садоў, пляцовак, грамадзкага харчаваньня, праленьі інш.

13. 8 сакавіка павінна замацаваць інтэрнацыянальную сувязь працоўных жанчын. Работніцы, батрачкі, працоўныя жанчыны павінны даць рашучы адпор спробам клясавага ворага ўнесьці нацыянальную розьнь у шэрагі працоўных. Кулак, нэпман, якой-бы ён ні быў нацыянальнасьці, заўсёды закляты вораг працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Таму, бязьлітасна змагаючыся з антысэмітызмам, шовінізмам усіх колераў і асабліва з нацыянал-дэмократызмам, мы б'ем клясавага ворага. Ва ўмовах Беларусі, дзе падаўляючая частка сялянства, правядзеньне беларусізацыі зьяўляецца важнейшай задачай у справе ўзмацненьня кіруючай ролі пролетарыяту ў адносінах да сялянства і ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту. Праводзячы беларусізацыю, партыя ў той-жа час забясьпечвае разьвіцьцё пролетарскай культуры нацыянальных меньшасьцяй.

14. Посьпехі, якія дасягнула наша краіна ў справе ўздыму народнае гаспадаркі і культурнага будаўніцтва толькі дзякуючы няўхільнаму правядзеньню генэральнае лініі бальшавіцкае партыі, толькі дзякуючы яе сталёвай згуртаванасьці ў барацьбе з усялякімі ўхіламі як у тэорыі, так і на практыцы і асабліва правым як найбольш небясьпечным у сучасны момант.

Для далейшага пераможнага будаўніцтва соцыялізму, перамаганьня цяжкасьцяй, якія маюцца на нашым шляху партыя кліча ў свае шэрагі перадавых рабочых і работніц, батрачак, калгасьніц, беднячак. Ленінскі заклік даў партыі калёну новы-барацьбітоў.

8 сакавіка перадавыя работніцы—ударніцы батрачкі і беднячкі, застрэльшчыцы колектывізацыі—у рады Ленінскай партыі.

**Аддзел Агітацыі і Масавай Прапаганды ЦК КП(б)Б.**



Адказныя рэдактары { **О. Канакоцін.** **А. Гаруновіч.**

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

ОРГАН ЦККП(б)Б

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты— павінен падпісацца на часопіс**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.**

Цана 15 кап.